# СТАРЭЙШЫНА РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Кандрат Крапіва... Гэтае шырока вядомае, акружанае народнай любоўю імя прыйшло ў літаратуру праз досціп смеху, які цэлай ракой хлынуў з баек, сатырычных вершаў, што ўбачылі свет у пачатку дваццатых гадоў. Стыхія камічнага, якая выбухнула ў крапівінскім таленце, была такой напорыстай, магутнай, што адразу забяспечыла паэту-сатырыку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю. Рагатала ўся Беларусь: байкі, вершы Кандрата Крапівы чыталі, атрымаўшы свежую газету і пасеўшы на прызбы вясковыя дзядзькі, без іх не абыходзіліся самадзейныя спектаклі, сходкі, з крапівінскімі прыпеўкамі ішлі ў наступ за новы быт рашучыя камсамольцы дваццатых і трыццатых гадоў.

Паэт-гумарыст і сатырык размаўляў са сваім чытачом на вельмі зразумелай і блізкай яму мове. Гэтая мова нібы ўвабрала, паяднала ў адно спрадвечную дасціпнасць вострых на язык людзей, якіх ва ўсе часы меў кожны сялянскі куток: усіх гэтых жартаўнікоў, перасмешнікаў, складальнікаў небывала дзіўных гісторый. Сапраўдны вялікі талент заўсёды ўсімі сваімі карэннямі ўваходзіць у родную глебу, жывіцца яе сокамі.

Калі акінуць мысленным позіркам ніву беларускай літаратуры — і дарэвалюцыйную і савецкую — можна заўважыць адну цікавую асаблівасць. Амаль усе значныя пісьменнікі, якіх падняў са сваіх глыбінь наш народ, валодалі майстэрствам смеху. Камічнае арганічна ўваходзіць у светаадчуванне нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, гумарыстамі і сатырыкамі ўмелі быць Дунін-Марцінкевіч і Багушэвіч, Багдановіч і Бядуля. Дый і літаратурная плеяда, якая сфармавалася ў савецкі час, дастойна працягвае гэтую традыцыю — Броўка і Лынькоў, Танк і Брыль, Куляшоў і Панчанка. Нават новая беларуская літаратура пачыналася з твораў камічных, «смешных» — з ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Гумар, відаць, характэрны для мыслення беларуса, якога не песцілі ў мінулым зведаныя ім жыццёвыя шляхі-дарогі. Недасяжную вышыню, якую атрымаў смех у творчасці Кандрата Крапівы, трэба перш за ўсё вытлумачваць

сацыяльнымі прычынамі. Некалі Карл Маркс сказаў, што адна эпоха развітваецца з другой пры дапамозе смеху. Сатыра Крапівы — вынік вялікага гістарычнага раздарожжа. Кастрычніцкая рэвалюцыя нібы нарадзіла бачную, адчувальную мяжу паміж жыццём старым, што ішло ў нябыт, і жыццём новым, савецкім, якое тады, калі пісаліся крапівінскія вершы і байкі, толькі пачынала набіраць разгон. Агромністымі былі спадзяванні, якія прынесла рэвалюцыя ў жыццё, светлымі, велічнымі ідэалы, якія яна напісала на сваіх сцягах. Адсюль і сіла адмаўлення старога, аджываючага, што так уладна прабілася ў вершах, байках Кандрата Крапівы. Ён нібы стаў сатырычным упаўнаважаным Кастрычніка, па мандату новай рэвалюцыйнай праўды змятаючы з дарогі адсталае, непатрэбнае, ману, фальш, хцівасць, чалавечую мізэрнасць.

Многа адценняў і граняў крапівінскага смеху. Бязлітасны, здзеклівы, знішчальны гэты смех у адносінах да ворагаў рэвалюцыі, да ўсіх тых, у каго «ад пачосткі ныюць косткі», хто зноў шчэрыць зубы на заваёвы маладой Краіны Саветаў, супраць каго трэба напагатове «трымаць чырвоны штык». Вершы, байкі, паэмы Кандрата Крапівы дваццатых і пачатку трыццатых гадоў, нібы ў люстры, адбіваюць баявы, рэвалюцыйны запал пакалення, якое, як казаў Маякоўскі, выйшла «строить и жить в сплошной лихорадке буден», маючы нязгасную веру ў светлае заўтра, яго этычны максімалізм.

Надрукаваная ў газеце заметка пра выпадак крадзяжу, марнатраўства, «выдаткі» літаратурнага жыцця, праявы валакіты, бюракратызму ў савецкіх установах, факты забабоннасці, рэлігійнага дурману — усё гэта становіцца ў сатырычных вершах і байках прадметам шчырай, зацікаўленай размовы. Даўно забыліся канкрэтныя падзеі, паводле якіх узнік той ці іншы верш, байка, а творы жывуць, не гасне сіла іх эмацыянальнага, мастацкага ўздзеяння на чытача. Як надзённыя, баявыя і сёння ўспрымаюцца байкі «Дзед і баба», «Сука ў збане», «Мандат», «Далікатныя парасяты», «Дыпламаваны баран», «Махальнік Іваноў», «Жаба ў каляіне», сатырычныя вершы «Калі ў краме ёсць нястача», «Фіга на талерцы» і многія іншыя творы. У чым сіла іх мастацкай трываласці?

Мабыць, перш за ўсё ў таленце аўтара, які ў падзеях хуткаплынных умеў адбіраць істотнае і тыповае. Але гэта толькі самы агульны адказ. Пытанне аб мастацкай даўгавечнасці такіх надзённых, баявых жанраў, якココ вершаваны фельетон, сатырычны верш, байка, куды больш складанае, чым на першы погляд здаецца.

Так, Кандрат Крапіва з'явіўся ў беларускай літаратуры як талент вельмі буйны, непаўторны. У савецкі час беларуская літаратура з не бачанай раней сілай праходзіла працэс паскоранага развіцця; раўняючыся на больш развітыя літаратуры, падцягвала, калі можна сказаць так, свае жанравыя тылы, запаўняла пустоты. Ва ўсіх формах і відах струменіла лірыка, нараджаліся раман, аповесць, узніклі коласаўскія ліра-эпічныя паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Мусіла заняць сваё дастойнае месца ў літаратуры і сатыра. Гэта было нібы патрабаванне часу, яго аб'ектыўны закон.

Прыходзіцца здзіўляцца: першапраходцы беларускай літаратуры былі талентамі маштабнымі, шматграннымі, яны выяўлялі здольнасць працаваць адначасова ў розных жанрах літаратуры. Так, палымяны, рамантычна ўзвышаны лірык Янка Купала пісаў драмы і камедыі, дыяпазон узаемадачыненняў да мастацкага слова Якуба Коласа яшчэ шырэйшы — лірык, эпік, празаік, драматург. Празаікамі і паэтамі былі Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Чарот.

Кандрат Крапіва — таксама з ліку першапраходцаў. Па выхаванню, пройдзеных жыццёвых дарогах ён тыповы інтэлігент першага савецкага пакалення. Нарадзіўся Кандрат Кандратавіч Атраховіч у 1896 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў гарадское вучылішча, экстэрнам здаў экзамен на званне настаўніка, працаваў у школе, пад час імперыялістычнай вайны быў мабілізаваны ў царскую армію. Скончыў школу прапаршчыкаў, ваяваў на Румынскім фронце. На вачах будучага пісьменніка адбываліся Лютаўская, затым Кастрычніцкая рэвалюцыі. Па дэкрэту Савецкай улады ў 1918 годзе ён быў звольнены з арміі як настаўнік. Вярнуўшыся на радзіму, працаваў на гаспадарцы, у школе.

Пачынаючы з 1920 года — Кандрат Кандратавіч у Чырвонай Арміі. Забягаючы наперад, варта сказаць, што на баявыя паходы пісьменніку пашанцавала аж занадта. Акрамя імперыялістычнай і грамадзянскай ён удзельнічаў у фінскай вайне, у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, у Вялікай Айчыннай вайне. Ён быў верным сынам свайго неспакойнага веку.

Будучы ўжо немаладым, трыццацігадовым чалавекам, Кандрат Кандратавіч у 1926 годзе паступае ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, а ў 1930 годзе яго заканчвае.

Такія асноўныя жыццёвыя вехі, якія прывялі Кандрата Крапіву ў літаратуру. Яму выпала жыць, калі карыстацца высокімі словамі, на зломе гістарычных эпох, быць сведкам і ўдзельнікам сапраўды гістарычных падзей. На ўласныя вочы ён бачыў, у якіх

пакутах, цаной якіх ахвяр нараджаецца новы свет. Добра, надзвычай добра ведаў пісьменнік і жабрацкае, заскарузлае жыццё старой вёскі з яго сямейнай і суседскай лаянкай, звягай, калатнечай, узаемнымі падкопамі і падколамі, цемнатой і бескультур'ем. Вядома, не толькі дрэннае, але і добрае было ў старой вёсцы. Свой надзённы кавалак хлеба селянін зарабляў крывавым мазалём і потам, марнатраўцаў не любіў, простыя, відавочныя межы дабра і справядлівасці былі вызначаны ў яго свядомасці вельмі выразна.

Сялянскую, «мужыцкую», Беларусь выдатна ведалі Янка Купала і Якуб Колас. Наступнымі па глыбіні, сіле пранікнення ў псіхалогію сялянства, якое ва ўмовах дарэвалюцыйнай Беларусі было носьбітам народнасці, у шматвяковую філасофію яго бытавання, паэтычны свет, невычэрпныя скарбы мовы, фразеалогіі былі пісьменнікі, што сфармаваліся ў савецкую пару,— Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва.

Байкі і сатырычныя творы Крапівы адразу атрымалі ў літаратуры сталую «прапіску», сталі творамі хрэстаматыйнымі, па якіх вучыцца глядзець на жыццё ўжо каторае пакаленне школьнікаў. І вось чаму — у іх рэвалюцыйны, сацыялістычны ідэал сплаўлены з ідэалам народным. Самыя сучасныя ідэі паэт апрануў у народныя вопраткі, на падзеі сучаснасці глядзеў праз прызму народнага светабачання, светаадчування, і гэта забяспечыла яго творам зайздроснае даўгалецце. Як бачым, рэвалюцыйны ідэал зусім не супрацьпаказан ідэалу народнаму.

Пра тое, што Кандрат Крапіва ўзняў беларускую байку на вышыню мастацкай дасканаласці, зрабіў яе сапраўдным сатырычным і літаратурным жанрам, напісана шмат і паўтарацца тут не варта. Варта толькі сказаць, што байка, сатырычны верш сталі для пісьменніка стартавай пляцоўкай у сэнсе далейшых літаратурных сяганняў.

Байкапісец Крапіва рана адчуў драматургічную камедыйную прыроду байкі. Сапраўды, яна была камедыяй у мініяцюры дзякуючы «нарицательной», як бы загадзя запраграмаванай у свядомасці чытача ці слухача ролі Аслоў, Баранoў, Свіней, мела акрэсленыя характары, дыялог, дзеянне. Здавалася, адзін крок аддзяляў байкапісца Крапіву ад камедыёграфа і драматурга. Але рабіць гэты крок ён не спяшаўся.

Працуючы над сатырычнай пераніцоўкай «Бібліі», ствараючы фантастычна-казачную паэму «Хвядос — Чырвоны нос», Кандрат Крапіва, мабыць, прывучыў сябе да шматгалосся, выяўлення характараў праз сутычкі і дзеянне, якое так неабходна драме і камедыі.

Тады, у ахопленыя энтузіязмам тварэння новага сацыялістычнага мастацтва дваццатыя гады, розных п'ес пісалася багата. Працавалі БДТ-І (цяперашні акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), БДТ-ІІ (цяперашні тэатр імя Якуба Коласа), дзейнічаў перасоўны тэатр Галубка. Але значных творчых удач было няшмат. Персанажы большасці п'ес былі палымянымі, пафаснымі, але, на жаль, «бестелесными» рупарамі аўтарскіх ідэй, хадзячымі схемамі. Ім як бы бракавала жывой плоці, непаўторнага чалавечага аблічча. Тэатры адчувалі востры рэпертуарны голад. Маладое савецкае мастацтва драматургіі, як самае складанае мастацтва, нараджалася ў пакутах.

Кандрат Крапіва, аднак, не спяшаўся ў тэатр. Побач з байкамі, сатырычнымі вершамі і паэмамі ён піша апавяданні. Яго літаратурныя настаўнікі Купала і Колас, будучы прызнанымі народнымі паэтамі, рабілі бліскучыя выхады ў сумежныя літаратурныя жанры. Ён, выдатна асталяваўшыся ў сатыры, адзін за другім выпускае зборнікі гумарыстычных апавяданняў — «Апавяданні» (1926), «Людзі-суседзі» (1928), «Жывыя праявы» (1930), у 1931 годзе выступае з раманам «Мядзведзічы».

«Мядзведзічы» — шырокае эпічнае палатно, у якім пісьменнік у сацыяльна-псіхалагічным плане асэнсоўвае падзеі і зрухі, што адбываліся ў беларускай вёсцы напярэдадні калектывізацыі. У поўны рост паўстаюць у ім аб'ёмныя чалавечыя характары, кіпяць страсці, вабяць намаляваныя таленавітым празаікам карціны вясковага побыту.

Раман «Мядзведзічы» займае віднае месца ў беларускай прозе. Сям'я Верамейчыкаў, якая стаіць у цэнтры аўтарскага паказу, вобразы кулакоў Каржакевіча, Жагулы, Грамабоя, вясковых актывістаў Рыгора Варанца, Аўдолі выпісаны з зайздроснай псіхалагічнай паўнатой, мастацкай пераканаўчасцю. Сатырык Крапіва засведчыў сябе выдатным майстрам аналітычнай прозы. Аднак і гэты раман не быў сведчаннем таго, што пісьменнік наважыў развітацца з сатырай.

Раман «Мядзведзічы» быў якраз тым мастком, па якім Кандрат Крапіва канчаткова перайшоў у драматургію. Свядома ці падсвядома ён адчуваў, што сучаснай драматургіі не хапае чыста чалавечага зместу, псіхалагічнай аб'ёмнасці характараў, іх індывідуальнай непаўторнасці. Проза, у прыватнасці раман, давала магчымасць набыць, адшліфаваць такое майстэрства.

Пачынаючы з 1933 года, калі на тэатральнай сцэне была пастаўлена п'еса «Канец дружбы», наступае новы этап не толькі ў самой творчасці Кандрата Крапівы, але, бадай, і ў дзейнасці беларускага тэатра.

У Крапівы-драматурга многае застаецца ад сатырыка і байкапісца: драмы, камедыі будуюцца на выразна вострых канфліктах, узнікаюць па гарачых слядах жыццёвых падзей. І ўсё ж гэта не толькі якасна новы перыяд творчасці выдатнага беларускага пісьменніка, а і новая ступень развіцця ўсёй нацыянальнай драматургіі, яе бліскучы творчы ўзлёт. Шырыня, шматграннасць ахопу жыццёвых з'яў, незвычайнае багацце намаляваных характараў-тыпаў, разнастайнасць жанравага вырашэння праблем — вось тое галоўнае, што прынёс Кандрат Крапіва ў беларускую драматургію.

Як і ў вялікіх майстроў мінулага, смешнае суседнічае ў беларускага драматурга з трагічным, высокае, гераічнае з пачварным і агідным.

І яшчэ адну вялікую творчую задачу прыйшлося вырашыць Кандрату Крапіве. Сялянская Беларусь на вачах рабілася індустрыяльнай, у нацыянальнае жыццё паўнапраўным яго ўдзельнікам прыйшоў рабочы, інтэлігент, праблемы сацыяльныя, палітычныя станавіліся надзённымі праблемамі жыцця. Рамкі традыцыйнай сямейна-бытавой драмы ці камедыі, якія ведала беларуская драматургія, не маглі ўмясціць новага жыццёвага матэрыялу. Кандрату Крапіве прыходзіцца ісці па цаліку, быць першаадкрывальнікам, ствараць новыя жанры. Яны з'явіліся — сацыяльна-псіхалагічная і народна-гераічная драма, сатырычная, лірычная і нават фантастычная камедыя.

«Канец дружбы», «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Проба агнём», «Мілы чалавек», «З народам», «Пяюць жаваранкі», «Зацікаўленая асоба», «Людзі і д'яблы», нарэшце «Брама неўміручасці» — іскрыстая, поўная народнага дасціпу і глыбокай філасофскай развагі камедыя, напісаная далёка не маладым, адсвяткаваўшым сямідзесяцігоддзе, пісьменнікам — большая палавіна гэтых рэчаў была падзеяй у савецкай драматургіі і сцэнічным жыцці тэатра.

Кандрат Крапіва заўсёды пісаў аб самым значным, істотным і важным, што наспела ў жыцці і як бы патрабавала грамадскай ацэнкі, суда. Міжволі прыгадваецца выказаная драматургам думка адносна камедыйнага канфлікту: ён павінен быць сур'ёзным, мець вялікі рэзананс (накшталт таго гуку, які вынікае, калі ўдарыць нават чым-небудзь маленькім па вялікай жалезіне).

Першая ўжо драма «Канец дружбы» мела менавіта такі сур'ёзны, грамадска значны канфлікт. У гадзіну нягоды адзін чалавек, настаўнік Лютынскі, рызыкуючы ўласным жыццём (падзеі адбываюцца пад час белапольскай акупацыі), выратоўвае жыццё другому — партызану Карнейчыку. Апошні дае абяцанне

не забыць гэтай самаахвярнасці, прыйсці на дапамогу сябру ў цяжкую для яго часіну. І не прыходзіць, калі часіна такая надараецца, бо той здрадзіў чамусьці большаму — грамадскай справе, высокім рэвалюцыйным ідэалам, за якія абодва ў маладосці змагаліся, хоць разумелі, відаць, гэтыя ідэалы неаднолькава. Тыповы, суровы канфлікт далёкіх трыццатых гадоў.

Народна-гераічная драма «Партызаны», якая ўбачыла свет у 1937 годзе, з'явілася не толькі як вынік роздуму пісьменніка над прычынамі і вытокамі перамогі ў грамадзянскую вайну, а як бы і папярэджвала аб новай небяспецы і пагрозе, што навісала над савецкай краінай. Выдатная, вялікая гэта драма. Нібы сам беларускі народ з яго адмысловым паглядам на свет, мяккім гумарам, паблажлівасцю ў жыцці, з нязломным характарам у гадзіну суровых выпрабаванняў прыйшоў на яе старонкі. Нездарма пасля прагляду «Партызан», стоячы, горача апладзіравалі артыстам абраннікі народа — дэлегаты Устаноўчага сходу ў Беластоку, якія прынялі памятнае рашэнне аб уваходзе ў савецкую дзяржаву і ўз'яднанні Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай.

Сатырычная камедыя «Хто смяецца апошнім», напісаная перад самай вайной, трыумфальным шэсцем прайшла на сцэнах многіх дзесяткаў савецкіх і некаторых зарубежных тэатраў. З прынцыповых, партыйных пазіцый Кандрат Крапіва даваў у ёй бой нахабнікам, кар'ерыстам, палахлівым, прыніжаным душам, якія сваёй пакорлівасцю стваралі прыдатную глебу для разгулу гарлахвацкіх. Значэнне гэтай надзвычай смелай для свайго часу камедыі стала нам яшчэ больш зразумелым пазней, калі партыяй былі выкрыты злоўжыванні і парушэнні рэвалюцыйнай законнасці ў час культу асобы.

У 1940 годзе, у час дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве, усесаюзны глядач, які ўбачыў «Партызан» і «Хто смяецца апошнім» на сцэне, па заслугах ацаніў дасягненні беларускай савецкай культуры. Наша літаратура і мастацтва дэманстравалі бліскучыя поспехі, яны сталі неад'емнай часткай савецкай, сацыялістычнай культуры. Першым вывеў беларускую драматургію да ўсесаюзнага гледача Кандрат Крапіва. Яшчэ тады, да вайны, ён у ліку першых беларускіх пісьменнікаў стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.

Яркае, непаўторнае, рознабаковае асвятленне знайшлі ў драматургіі Кандрата Крапівы Вялікая Айчынная вайна і пасляваеннае жыццё. Гераіка подзвігу савецкага чалавека яшчэ ў віхурныя дні вайны нарадзіла драму «Проба агнём», пазней, ужо ў мірны час, з'явіліся драмы такой жа высокай настроенасці — «З наро-

дам» і «Людзі і д'яблы». Цяжка пераацаніць зробленае драматургам. На старонкі п'ес, як і на сцэну тэатраў, як бы прыйшлі жывыя ўдзельнікі франтавых баёў, падпольнай і партызанскай барацьбы, якая ва ўмовах Беларусі ўцягнула ў сваё рэчышча людзей розных прафесій, узростаў, характараў, стала сапраўды ўсенароднай. Кіпенне страсцей, высокі напал сутыкненяў, канфліктаў, глыбокая псіхалагічная праўда вызначаюць названыя творы.

Як і заўсёды, у Кандрата Крапівы патэтыка, высокі пафас суседнічаюць з добрай усмешкай, ёмістым, поўным народнай дасціпнасці словам.

У пасляваенны час дыяпазон адлюстравання камічнага ў творчасці выдатнага драматурга яшчэ больш пашырыўся, набыў новыя колеры і адценні. Сатырычная камедыя «Мілы чалавек», лірычная камедыя «Пяюць жаваранкі», нарэшце, фантастычная драма «Брама неўміручасці», дзе стыхія смеху займае надзвычай прыкметнае месца,— усе гэтыя творы падымаюць вельмі значныя жыццёвыя і маральныя праблемы.

Як некалі ў камедыі «Хто смяецца апошнім», у «Браме неўміручасці» драматург падняўся на высокую ступень мастацкай умоўнасці. Але ад гэтага яго твор набывае яшчэ большую эмацыянальную і інтэлектуальную выразнасць. У «Браме неўміручасці» гутарка ідзе пра кардынальныя пытанні грамадскага і чалавечага жыцця, пра вытокі нашай камуністычнай этыкі і маралі.

Наскрозь пранізана новая п'еса Кандрата Крапівы глыбокай філасофскай развагай, «праклятыя», вечныя пытанні сэнсу чалавечага існавання вырашаюцца ў ёй па-народнаму мудра і дасціпна.

Другі раз у творчай практыцы камедыёграфа сфера навуковай дзейнасці дае яму выразны камедыйны канфлікт. Толькі ў новым творы рухальнікам гэтага канфлікту (у адрозненне ад прайдзісвета Гарлахвацкага з камедыі «Хто смяецца апошнім») з'яўляецца чалавек высакародны, разумны, гуманны — акадэмік-герантолаг Барыс Пятровіч Дабрыян. Праводзячы свае доследы над падвопытнымі пацукамі, ён нарэшце адкрыў сакрэт, які забяспечыць неўміручасць усяму, што мае гарачую кроў, дыхае, здольна рухацца ў прасторы і часе.

Дзіва — адкрыццё Дабрыяна ляжыць на мяжы фантастычнага — але мы яго прымаем як бы нават без асаблівага ўзрушэння. Прычына, мабыць, у тым, што ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, выдатных поспехаў савецкай навукі, мы проста прызвычаіліся да незвычайных адкрыццяў — залацеў жа чалавек

у космас, вучоныя сінтэзуюць новыя рэчывы, упрытык стаяць ля тайны жывога на зямлі.

Камедыёграф у адпаведнасці з духам часу выбраў свой канфлікт. І ў той жа час здолеў бліскуча паказаць, колькі яшчэ коснага, адсталага ёсць у жыцці, колькі бруду, сапсутых нораваў, заганнай маралі тоіцца ў асяроддзі сучасных мяшчан-абывацеляў, якія апранаюцца ў капроны і нейлоны, ведаюць сэнс самых новых слоўцаў і тэрмінаў, але па-ранейшаму пакланяюцца абымшэламу богу асабістай выгоды і эгаістычнага разліку.

Шматгалосым, нахабным натоўпам праходзяць перад намі ўсе гэтыя людзі «ўчарашняга дня», хцівыя, хітрыя прыстасаванцы, якія не супроць таго, каб увайсці і ў камунізм. Сэнс жыцця ў тых, хто прэтэндуе на «вечны заслужаны адпачынак» — у зладзеяватага адстаўніка Дажывалава, хапугі Караўкіна, жуліка Торгалы, паклёпніцы Застрамілавай, кар'ерыста Скараспея — вельмі просты — карыстацца ўсімі дабротамі, якія дае ім грамадства, і нічога не аддаваць узамен.

З вострым, здзеклівым смехам камедыёграф адмаўляе ў будучыні марнатраўцам і захрыбетнікам, дасвавалам і прайдзісветам. Такі ідэйны сэнс камедыі. Але ёсць яшчэ адна думка ў гэтым выдатным творы, роўная мастацкаму адкрыццю: наша савецкае, сацыялістычнае жыццё нарадзілася як саюз роўных, вольных людзей, і гэтую вялікую заваёву трэба няўхільна абараняць ад прайдзісветаў і захоўваць у чысціні.

Нягледзячы на ўмоўнасць канфлікту, персанажы камедыі намаляваны ярка, з непаўторнымі індывідуальнымі рысамі. Вернасць традыцыям народнасці дае драматургу плён і ў гэтым, вельмі сучасным па праблематыцы і нават па слоўніку творы: ацэнка з'яў, праяў жыцця вядзецца з пазіцый народнай этыкі і маралі, з бескампрамісных партыйных пазіцый, і гэта забяспечвае твору высокае мастацкае гучанне. Драматург дае ў ім бой сучаснаму мяшчанству, прыстасавальніцтву, як і заўсёды, услаўляючы сціпласць, працавітасць, выключную аддадзенасць высокім грамадскім ідэалам.

Неўміручасць, бяссмерце чалавека — не ў бясконцым фізічным існаванні, а ў абмежаваным часам жыцці на зямлі, у вялікіх справах дзеля шчасця сучасных і наступных пакаленняў — такое філасофскае рэзюме гэтага выдатнага мастацкага твора.

Сапраўдная, непадзельная народнасць у спалучэнні з актыўнай грамадзянскасцю, прынцыповай партыйнасцю, высокай камуністычнай ідэйнасцю — такія якасці характарызуюць усё створанае народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам Кандратам Крапівой. Вялікія яго заслугі перад роднай літаратурай і культурай.

Кандрат Крапіва — аўтар шматлікіх прац па мовазнаўству, стваральнік і рэдактар нашых фундаментальных слоўнікаў, на працягу многіх год ён узначальваў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Яго пяру належаць шматлікія артыкулы па пытаннях беларускай літаратуры і асабліва драматургіі.

Многа часу і ўвагі аддае Кандрат Крапіва выхаванню творчай моладзі. Пры яго бацькоўскім клопаце і падтрымцы вырас, узмужнеў не адзін сапраўдны талент.

Крапівінскія традыцыі ў сатырычным жанры, у драматургіі паспяхова працягвае наступная плеяда пісьменнікаў. Ды і сам ён у жывым страі сучаснай беларускай літаратуры і культуры, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, паплечнік Купалы і Коласа, заслужаны старэйшына роднай літаратуры.

*Іван Навуменка*

## КРАПІВА

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? Смех, дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.

Я расту вось тут пад плотам
І не так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі папякла.

Хто палез за агуркамі,
Хай той носіць пухіры —
Мяне голымі рукамі
Асцярожна, брат, бяры.

Хто сустрэўся быў са мною,
Дакрануўся раз ці два,
Дык той ведае ўжо, хто я:
Я — пякучка-крапіва.

*1922*

## САМАГОНАЧКА

*П'яная гутарка*

Як цябе калі я ўбачу,
Самагоначка мая,
Дык чуць з радасці не плачу...
Дай жа цмокну цябе я.
Эх! Прыемна ты сабою,
Мне ўжо вельмі ж па нутру,—
 Разлучуся я з табою,
 Хіба толькі як памру.
 Ад падатку ўсю астачу
 Прынясу, аддам табе...
 Што? Не еўшы дзеці плачуць?
 Ну дык што ж — няхай сабе.
Як паддам сабе ахвоты,
Дык я ўсё аддаць гатоў —
Шапку, вопратку і боты...
Дай жа цмокнемся мы зноў.
Твая матка, як бывала,
За Міколаў яшчэ час,
Без апаскі ўсіх прымала,—
 Ты ж не гэтакая ў нас,
 Але, здэцца, і з табою
 Можна справу распачаць,—
 Я вячэрняю парою
 Цябе буду сустракаць.
 Што? Смяяцца будуць людзі?
 Нам на гэта напляваць.
А мо жонка грызці будзе?
Дык патрапім і суняць:
Як адбатажу вяроўкай,
Ўзяўшы галаву між ног,—
Зразу стане мякчэй шоўку...
Я ж як злосны — не дай бог.

Не пужайся ж, дай мне губкі —
Пацалую яшчэ раз:
Ўспамянём жа сёння, любка,
Мы з табою былы час!

*1922*

## ШТО Я БАЧЫЎ НА «ТРЭКУ»

Раскажу вам прастарэку,
Як я ўчора быў на «трэку»,
Нават грошы заплаціў —
Так бы «нэп» і не пусціў.

Давялося мне там бачыць,
У мяшках як людзі скачуць:
Два хлапцы залезлі ў мех
Ды валтузяцца — аж смех,

Так, як тыя парасяты,
Што вазіў калісь мой тата
У мястэчка на таржок,
Завязаўшы ў мяшок.

Як з таго парагаталі,
Дык паказвалі і далей:
Нейкі хлопчык, як смарчок,
Перыў палкаю гаршчок.

Завязалі яму вочы —
Стала цёмна, як уночы,—
Пакруцілі разоў пяць,
Потым стаў ён пападаць:

Гоп аб землю палкай з маху —
Людзі ў рогат: — «Ха-ха-ха!
Ах, каб ты, хлапец, прапаў:
І цяпер вось не папаў».

Больш нічога я не бачыў,
Дык сягоння чуть не плачу:
Ну, за што, каб хто спытаў,
Я «лімон» дарэмна даў?

Грошай больш на «трэкі» траціць
Я не буду, не — ўжо хваціць,
А, забраўшыся ў мяшок,
Завяжуся ды — скок, скок!

Потым жонка мех развяжа,
Хусткай вочы мне завяжа
Ды паставіць мне гаршчок,
А я палкай — шпок ды шпок!

Па гаршку цаляць не буду:
Я ж не дурань біць пасуду,
А каб нехаця не даць,
Буду трошкі падглядаць.

Будзе весела бясконца
Не адно мне, але й жонцы —
Гэтак вось святочным днём
Мы «культурна» адпачнём.

*1922*

## ПЛЕТКАРЫ

Знае ён усё на свеце,
Вестак больш, як у газеце,—
Чуў — не чуў, а навіну
Скажа вам, ды не адну;
Што і чуў, дык пераверне,
І пайшла пісаць губерня,
Бо даўгі яго язык
Да спакою не прывык.
«Вой, сястрыца! Чула дзіва?
Кажуць, сёння нарадзіла
Жонка Сцёпкі Карася
Не дзіця, а парася».
«А я чула ад Аўдолі,
Што папы дзесь раскалолі
Ўсю царкву напапалам —
Частка тут, а частка там».
«На Германію ж, казалі,
Рэпарацыі напалі,
Многа знішчылі дабра...
Гэта, кажуць, машкара.
Так жарэ, што не дай божа:
Есць траву, жывёлу, збожжа,
Лес паела дзе-нідзе,
Пераходзіць на людзей».
Вы, зязюлькі мае, цёткі,
Што за смак вам плесці плёткі?!
І мазоліць языкі
Вам, саколікі-дзядзькі?
Час і сілу дарма траціць?
Плеткарам жа мо не плацяць?
Толькі й платы бедаку,
Што мазоль на языку.

*1922*

## ДАЙ ДЫ ДАЙ...

А няхай ты праваліся! —
Вось парадкі завяліся:
Дзе ні сунься, так і знай —
Ўсюды ў лапу дай ды дай...
Нек таму ўжо з месяц будзе
За зямлю я быў на судзе,
Дык каб ёю заўладаць,
Мне прыйшлося ў лапу даць.
Нек надоечы я ехаў
Па чыгунцы, дык, без смеху,
Я па шпалах бы дыбаў,
Каб не ў лапу добра даў.
Гэтым летам праднлогу
З мяне ўзяць хацелі многа,
Але, каб не галадаць,
Мне прыйшлося ў лапу даць.
Вось мы гэтак дажыліся,
Што аж «тройкі» завяліся —
Яны хочуць, як відаць,
«Дзерунам» па лапах даць.
Ды не ведаю я толькі,
Ці памогуць нават «тройкі»,—
Каб навесці тут парадкі,
Мо спатрэбяцца й «дзесяткі».

*1922*

## ГРЫШЧА

Нешта сёння у Агаты
Лямпа весела гарыць,
А людзей дык поўна хата,—
Так як дзверы зачыніць.

У яе, бач, грышча сёння,
Дык сышлася вёска ўся;
Сцёпка ціскае гармонік,
Той пішчыць, як парася.

А пад піск той сярод хаты
Дык аж стогнуць, бы аруць,
Скачуць хлопцы і дзяўчаты —
Вобуй бацькаўскі дзяруць;

Аж сапуць, абліты потам,
Як улетку ў сенакос;
Як каторы тупне ботам —
Здэцца, зломіцца памост.

Як ідзе ж Паўлінін Тодар,
Дык аж дзівяцца ўжо ўсе.
Да работы, здэцца, лодар,
Тут як чорт яго нясе.

А вакол стаяць дзяўчаты,
Шмат хлапцоў, мужчын, кабет.
Тут сынок, ды тут і тата,
Тут і ўнучак, тут і дзед.

Між вялікіх лазяць дзеці,
Так як мышы між снапоў,
Ім вядома ўсё на свеце,
Хто што робіць з дзецюкоў:

Дзе дзяўчыну хто абніме,
Пацалуе ці ўшчыкне —
Не схаваешся за імі
Ты ні ў сенцах, ні ў гумне.

Гоман, крык стаіць вялікі,
Смех дзяўчат і дзецюкоў,
Часам лаянка і дзікі
Град адборных мацюкоў.

Бела-сіні, надта горкі
Лезе ў вочы, есць да слёз,
Душыць горла дым махоркі,
Самагон зрывае нос.

Вось — забава для вялікіх,
Вось — навука для малых:
Ў самагонцы, скоках дзікіх,
Ў мацюках заместа кніг.

*1922*

## НОВАЯ ЕКЦЕНІЯ

*Да абнаўленскага руху на Беларусі*

К табе мая малітва:
Ты нам мітрапаліта
Падай, госпадзі!

Яшчэ прашу нясмела:
Клабук яму ты белы
Падай, госпадзі!

І мне ты на забаўку
Хаця ўжо камілаўку
Падай, госпадзі!

Апроч таго, я ў бога
Прашу зусім нямнога,
Падай, госпадзі!

Лагоднай я натуры,
Штодзень ты мне хаўтуры
Падай, госпадзі!

І кожную нядзелю
Па дваццаць пяць вяселляў
Падай, госпадзі!

Не ў год раз, а на месяц
Ты радаўніцаў з дзесяць
Падай, госпадзі!

А каляды, вялікдзень
Хаця па разу ў тыдзень
Падай, госпадзі!

Ты з вёсак і мястэчак
Двухногіх мне авечак
        Падай, госпадзі!

І вострыя мне ножны,
Авец каб стрыгчы можна,
        Падай, госпадзі!

Тады з аднэй авечкі
Я воўну дам на свечкі
        Табе, госпадзі!

Ратуй мяне ў няшчасці
І ад бальшавіцкай напасці,
        Госпадзі, памілуй!
        Госпадзі, памілуй!
        Госпадзі, памілуй!

*1922*

## КАГО МНЕ ЎЗЯЦЬ ЗА КУМА?

— Што за штука тут такая? —
Запытаўся ў Пранука я.—
І багаты ж ты не надта,
Збудаваў, аднак, вось хату,—
Аж свіціцца так, як шклянка,
На падлозе, нават з ганкам.
Ды ў вялікай ты дарозе
Не бываеш і ў абозе,
Нават рэдка быў і ў блізкай,
Хоць здаровы твой каніска.
Тры душы ў цябе сямейкі,
А вось ворнай жа зямелькі
Дзесяцін ты маеш з восем,
Дык чаму ж, скажы, увосень
Заплаціў ты прадналогу
Нешта ўжо зусім нямнога?

— Я скажу, сусед, аб гэтым
Табе толькі пад сакрэтам:
У мяне, бач, ёсць радня —
Сельсавета старшыня.
Вось чаму зімой і ўлетку
Я ў абоз так езджу рэдка,
Вось чаму так панямногу
Я плачу і прадналогу,
Вось чаму (ах, дзякуй свату!)
Збудаваў я нават хату,
Хоць далёка да такое,
Як у Янкі. Там пакоі!
Сакратар райвыканкома
Яму добра, бач, знаёмы,—
Кум ці там якая трасца,—
У таго ён надта ў ласцы.

Пастаяў я тут, паслухаў,
Пяцярнёй паскроб за вухам
Ды пайшоў скарэй дахаты.
Там я з жонкай «таўставатай»
Доўга раіўся і думаў —
Каго ўзяць бы нам за кума,
Ды дачуўся таго ж дня:
«Сакратар» і «старшыня»
Ды яшчэ з якімсьці членам
Атрымалі ў зад каленам.

*1923*

## НА «КРЭСАХ УСХОДНІХ»

*Да прамовы пана Сікорскага*

Пан клапоціцца на «Крэсах».
Аб чыіх жа інтарэсах?
Можна бачыць і сляпому —
Не аб нашых жа, вядома.
Воўчы зуб не памагае,
Дык палітыка другая
У яго як бач паспела —
Хвост пусціць лісіны ў дзела;
Ходзіць, губкамі мыляе,
Канстытуцыяй віляе,
Мякка сцеле, гладзіць вусы
Украінцу й беларусу:
«Мы вас любім, мы вам рады,
То чыноўнікі ўсё, гады,
Вас там крыўдзілі дагэтуль —
Мы пакажам ім за гэта.
Вось вам цацак (папяровых),
Вось вам школы, вось вам мовы...»
        Ходзіць пан лісой-хітрушкай
Перад крэсаваю птушкай.
Беларус, глядзі не каркай,
Бо адчуеш сваім каркам,
Чаму пан такі стаў добры:
Кось-кось-кось — пакуль ў аглоблі,
Потым па баку дугою
Ды ў жывот яшчэ нагою.

*1923*

## МАЛІТВЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

*На ўвагу папам-беларусам*

Мітрапаліт Варшаўскі Юры
Рашыў зрабіць славяншчыне хаўтуры:
Загадаў ён Віленскай кансісторыі,
Каб усе папы, каторыя
Могуць ужыць беларускай мовы,
Гаварылі б на ёй прамовы.
Я думаю (хоць можна й памыліцца),
Што скора па-беларуску будуць і маліцца,
Дык, каб бацькам духоўным услужыць,
Я рад малітвы ім пералажыць
На беларускую з славянскай мовы.
Вось тут чатыры ўжо гатовы.

### 1. Отча наш

*Для папоў Заходняй Беларусі*

Наш бацька нябесны, збавіцель ты наш!
Маленні нас, грэшных, бязгрэшны, уваж!
Аб хлебе насушным цябе не прашу:
Дадуць прыхаджане — я й сам насушу,
Прасіць я не буду яец ды кілбас,—
Скаромнае ёсць пакуль што яшчэ ў нас.
А вось аб чым шчыра цябе я малю:
Ты сам, як калісьці, сыдзі на зямлю,
Даведайся раз хоць авечак сваіх,
Бо нас не баяцца ўжо — служак тваіх:
Ва ўсе распаўзацца пачалі бакі,
Бляюць што папала, іх крадуць ваўкі.
Ты ў кучку збяры іх ды ў толк прывядзі
І плотам высозным вакол абвядзі,
Каб воўк бальшавіцкі сюды не залез,
Штодзень не цягаў каб ён нашых авец.

## 2. Цару нябесны

*Для папоў Савецкай Беларусі*

Ох, цар наш нябесны!
Мне жыць стала цесна:
З авец мне карысці
Няма, як калісьці,
Бо воўны не далі,
Ваўкамі ўсе сталі.
А я — ні славечка,
Маўчу, як авечка,
Баюся і пікнуць
Ды рад бы дзе знікнуць,—
Хоць лезці ўжо трэба
Жывому на неба.

## 3. Багародзіца

*Для папоў Савецкай Беларусі*

Прасвятая багародзіца!
Ты не бачыш, што тут робіцца!
Дык сядзі ж там ды не кратайся,
Як даўней, ты, дзева, радуйся,
Дый за нас там, багародзіца,
Бо самім нам не прыходзіцца.

## 4. Верую

*Для ўсіх папоў і попікаў,*
*а асабліва для «жывых».*
*У гэтай малітве скарочаны цітаты*
*з 12 членаў на 7*

1

У бога бацьку веруЮ,
Пакуль асмінай мераю,
А як мерацЬ перастану,
Дык і верыць не стану.

2

Я верую і ў сына
(Хоць жыта і з мякінай),
Ды хто ж бы не паверыў,
Каб гэтулькі намераў?

3

Вось будзе саладуха!..
Я верую і ў духа,
З якога дапамогай
Намераў гэтак многа.

4

Самлела ўжо спіна...
І ў цэркаў ядыну
Павінен я верыць,
Каб болей намераць.

5

Пра той свет не дбаю,
Бо я не чакаю
Прыходу другога
Ні чорта, ні бога.

6

Я веру: хоць трэсне,
Ніхто не ўваскрэсне.

7

Хоць як бы ні верыў,
А жыта намераў
Аж сорак асмін.
Амін!

*1923*

## ВОСЬ ТАКІЯ ДАКТАРЫ ВЫМУЦЬ ДУШУ БЕЗ ПАРЫ

*На газетную заметку*

Не за сінімі марамі,
Блізка тут, не за гарамі,
Нехта з нашага жыхарства
Недзе шмат папаў лякарства
(Кажуць, цэлую павозку)
Ды давай лячыць ім вёску.
І «ачуньваюць», ёсць слухі,
Людзі хворыя, як мухі.
Дзядзьку хворага Сцяпана
Пасадзіў ён раз у ванну,
Паглядзеў і... што такое?
Усё зняло, нібы рукою,
Нават скуру, нават мяса...
Далей лечыць ён тым часам.
Вось другому дзядзьку Янку
Ён навёў лякарства шклянку;
Выпіў Янка — й фур за браму:
Зразу к праайцу Абраму
У нябеснае ён царства,—
Надта добрае лякарства!
Гэты доктар мацналобы
Ад жыцця і ад хваробы
Адратоўвае нямала;
Трэба, мусіць, трыбуналу
Прапісаць яму «мікстуру» —
Хай людзей не морыць здуру.

*1923*



Кандрат Крапіва. 1915



Кандрат Крапіва (у першым радзе трэці злева)
з дэлегатамі з'езда «Маладняка» ў час сустрэчы з Янкам Купалам
(у другім радзе другі справа). 1925.

## ГОД СЦЯПАНА-ЛАЙДАКА

### Восень

Шэрым пузам душаць хмары
Поля нудныя абшары.
І, як мокрая варона,
Села вёска між загонаў;
Луг і лес сумуе голы,
А Сцяпан зусім вясёлы —
П'е без меры самагонку,
Б'е дзяцей, лупцуе жонку
І пудамі носіць жыта
К самагоншчыку Мікіту.
Кожны прысвятак ці свята
У Сцяпана поўна хата —
Сват і кум, і так знаёмы
Чуюць тут сябе, як дома,
А як пойдуць, Сцёпка п'яны
З кулакамі прэ да Ганны.
Ганна, бедная, галосіць
Дый у бога смерці просіць,
Сваю долю праклінае,
Што такога мужа мае.

### Зіма

Чуць не запар тыдзень цэлы
Неба зямлю пудрай белай,
Не сціхаючы, пудруе,
Вецер ў шчыліны свідруе,
Вокны ў хатах — як мядзведзі,
Прыцiскаюць — дзецца недзе,—
Не шкадуючы, марозы...

Наш Сцяпан зусім цвярозы,
Цэлы дзень ляжыць на печы —
На халоднай грэе плечы.
З рота пара ў хаце валіць:
Ганна ў печы мала паліць,
Бо мужык яе нядбалы
Прызапасіў дроўцаў мала.
У лахманы залезлі дзеці,
Снег ляжыць, бялее ў клеці —
Намяло праз дзіркі гуры,
А ў хляве стаіць панура,
Грызе яслі кабылёшка:
Сена ўжо зусім нямножка,
А аўса даўно не стала —
Самагонка ўсё пажрала.

## Вясна

Ужо вясна-красна настала,
Белы снег з палёў сагнала,
Цяпер сонейкам іх сушыць,
Лезе ў вочы, лезе ў вушы,
Аздабляць прабуе рэдкай
Чорны лес зялёнай сеткай,
К нам чароды птушак гоніць.
Птушкі весела гамоняць,
Як яны, шчабечуць людзі,
Рады, дышуць ва ўсе грудзі,
Адчыняюць клеці, гумны.
А Сцяпану нешта сумна —
Не пазнаць цяпер Сцяпана,
Аж хістаецца, як п'яны:
Толькі скура стаў ды косці —
Згаладаўся, але штосьці
Не завуць Сцяпана ў госці
Яго тыя ягамосці,
Што ў яго пілі ды елі,
Цэлу ноч часом сядзелі.
Ды Сцяпанава і Ганна
Нешта ходзіць так, як п'яна,
Дзеці ж выйшлі на паветра,
Дык валяюцца ад ветру —

Ап'янелі, знаць, бясконца
Яны, гледзячы на сонца,
На сінюсенькае неба
(Ап'янееш, брат, без хлеба!).
А з сахою, небарака,
Ходзіць п'яная каняка
Сюды-туды па загону —
П'яны ўсе без самагону.

## Лета

Ўжо вясну змяніла лета.
Як практычная кабета,
Яно смела неўзабаве
Цвет садоў — вясны забаву,—
Не шкадуючы сарвала,
Груш ды яблык начапляла,
Ў стагі сена шмат скаціла,
Жыта ўсё пазалаціла.
Людзі сена сушаць, косяць
Ды пагоды ў неба просяць;
Аддыхнуць пара б, дык дзе там!
Хто з сялян гультуе летам?
Ўсе працуюць так, як пчолы;
І Сцяпан наш зноў вясёлы —
Ўсіх уперад на загоне —
Жыта зжаў ужо аж гоні
(Хоць яно і з зелянкамі),
Ушпыляў загон снапкамі.
Дзеці ў лялькі тут гуляюць
Ды не дрэнна й выглядаюць
(Падрасла ўжо, бач, бульбінка).
Хвост задраўшы, кабылінка
Вунь па выгане гуляе —
Стала летам, як не тая;
Весялей глядзіць і Ганна —
Не кляне свайго Сцяпана.

Жыта новага к нядзелі
Пэўна ўжо Сцяпан намеле,
Новы хлеб рашчыніць жонка,
Зараз будзе й самагонка.

Зноў гасцей к яму збярэцца,
Зноў Сцяпан, лайдак, нап'ецца,
Ганну перад сваякамі
Пачастуе кулакамі,
На ўсю хату загамоніць
Ды ў куток дзяцей загоніць.
Піць так будзе, покі хваціць,
І падатку не заплаціць.

*1923*

## ЧЫРВОНАЯ МЯТЛА ДОБРА МЯЛА

*Чырвонай Арміі*
*Успаміны ў дзень гадавіны*

Цяжкі час быў для Саветаў,
Надта ж моцна прыпякло,
Памятаецца нам гэта,
Нібы ўчора ўсё было:

Адусюль паналяцелі
На здабычу груганы —
Вольнай волі захацелі
Вочы выклеваць яны.

Вось, вядомы ўсяму свету,
Чарнаморскі адмірал
Прэ вайною на Саветы —
Войска моцнае сабраў;

Ён з астатніх сіл стараўся,
З скуры лез аж, бедны, ён
І зусім ужо сабраўся
На Маскоўскі сесці трон.

Мы ж расправіліся з гадам —
Не пабачыў ён Масквы:
Той штыком, а той прыкладам —
І... Калчак без галавы.

Вось якраз такім жа родам
Браў Юдзеніч Петраград —
К нам палез са ўсякім збродам,
Потым сам аж быў не рад:

Генеральскімі рукамі
Прыхваціў разбіты нос

І з мяшэчкам за плячамі
Ногі ледзь ад нас панёс.

Неўзабаве тут за імі
І Дзянікін — вось ён, вот —
З афіцэрамі сваімі
На Маскву разявіў рот.

Не Маскву яму, а дулю! —
Не збылося, як хацеў:
Мы пяро яму ўваткнулі,—
Ён ад нас і паляцеў.

Не адзін аб троне марыў,
Вось і Врангель, фон-барон,
Гэткім самым жа макарам
Сесці мерыўся на трон.

Мы ж не цацкаліся з гадам,
Не зважалі, што барон,
І ў галёш падбітым задам
Неўзабаве сеў і ён;

І пусціўся ходам скорым,
Каб не сесці дзе на мель,
Проста, проста Чорным морам,
Аж за трыдзевяць зямель.

І з суседзямі-панамі
Нам прыйшлося ваяваць,—
Наляцелі груганамі,
Прунца к нам за рацпю рапь.

Вось сабраліся мы троху
Ды турнулі так паноў,
Што яны з перапалоху
Адракліся й жупаноў.

Яшчэ потым і эсэры
(Нібы нашы сваякі)
Шкоды многа нам без меры
Нарабілі, сцервюкі.

Там Пятлюра вунь з Марусяй,
Тут вось Савінкаў Барыс
На Ўкраіне й Беларусі
Бунт задумалі стварыць.

А Антонаў гэтым часам
Чуць не ўзяў у нас Тамбоў,
Але мы ім — па мардасах
Ды пусцілі без зубоў.

З тэй пары пад вольным небам
Вунь як вырас бальшавік!
Але моцна яшчэ трэба
Нам трымаць чырвоны штык.

*1923*

## НЕКРАЛОГ

*На смерць віленскай беларускай газеты «Наша Будучыня»*

Так на свеце пражыўшы мала,
«Наша Будучыня» ў лютым сканала,

Бо была ўсё ў жалобе, у смутку,
Нядобра скакала пад панскую дудку,

Мала віляла хвастом перад панам,
Чуць-чуць спачувала рабочым, сялянам,

Вось яе ў нясталым узросце
І ўдушылі паны-ягамосці.

*1923*

## ХТО ЗА НАМІ?

*Да пабудовы самалёта*
*«Савецкая Беларусь»*

Хлопцы! Янка, Сцёпка, Петра!
Хто за намі на паветра?
Хто ахвотнік неба мерацъ,
Дык выходзь сюды наперад.
Ну, а ты што крывіш губы?
Ці табе лятаць не люба?
Ці ты поўзаць толькі здольны?
Гэй, у неба птахам вольным
На спатканне навальніцам!
Ты ўжо мерышся садзіцца?
Пачакай — яшчэ, брат, рана,
Бо няма ж аэраплана:
Калі ты лятаць адважны,
Дык памацай свой бумажнік,
І твая капейка трэба,
Каб узняцца нам пад неба.

*1923*

## МЫ НЕ ПАКЛОНІМСЯ БОГУ

Мы не паклонімся богу,—
Бога стварыў чалавек.
Шырай жа к праўдзе дарогу!
Лганству не месца ў наш век.

К чорту касцёлы, капліцы,
Цэрквы, званіцы, званы!
Досыць працоўным маліцца
Рэчам папоўскай маны.

Хай будзе сотня і болей
Разам ляжаць плашчаніц,
Мы перад імі на доле
Не распластаемся ніц.

Годзе біць лоб аб падлогу,
Славячы «сына», «айца»!
Бой, што абвешчаны богу,
Мы давядзём да канца.

Шырай жа к праўдзе дарогу!
Лганству не месца ў наш век.
Мы не паклонімся богу,—
Бога стварыў чалавек.

*1923*

## У КРЫВАВЫХ МУКАХ

*Да парламенцкага скандалу ў Румыніі*
*пры абмеркаванні канстытуцыі*

Вось малюнак — проста люба:
Хто без чуба, хто без зуба,
Хто крывёю ўвесь абліўся,
Хто без памяці зваліўся,
У каго ж дык фрак на шматы,—
Пашалелі дэпутаты...
Стогны, енкі, крык і лямант —
Не то фронт, не то парламент.
Што за гвалт? У чым тут справа?
Гэта ў муках ён крывавых
(Смерць яму аж пагражае)
Канстытуцыю раджае.

*1923*

## ЯК АНТАК СТРЭЎ «ВЕЛЬКАНОЦ»

Антак ходзіць чуць не голы,
Але заўжды ён вясёлы,
І «вельканоц» стрэў «па-панскі» —
Быў пірог і быў «пазнанскі».
Антак спірту налупіўся,
Потым з жонкаю схапіўся
І гуляў з ёй «кракавяку»,
Потым поўзаў Антак ракам,
Потым лёг, нагамі дрыгаў,
Потым з'ездзіў двойчы ў «рыгу»,
А назаўтра ўстаў з пахмелля,—
Праклінае Антак «зелле»:
Ўсё баліць — нібы пабіты,
Лоб, як волавам наліты,
Хлеў свіны зрабіўся з рота —
Нават есці неахвота.
Пуста, моташна у хаце,
Малака няма дзіцяці,
Ні скарынкі няма хлеба,—
Жабраваць, няйначай, трэба.
Дык затое скажа кожны:
«Антак «гжэчны» і набожны —
Стрэў «вельканоц», «як належы»,
У падранай хоць адзежы,
Але еў і піў «па-панскі» —
Быў пірог і спірт «пазнанскі».

*1923*

## ВОЛ І АВАДЗЕНЬ

*Байка*

Гарачым летнім днём
Вол з ворыва вяртаўся.
Напрацаваўся, аж хістаўся.
За ім жа куча аваднёў
Ляцела роем.
Вядома тут, з якім настроем
Ісці мог Вол:
Глядзеў сярдзіта навакол,
Махаў хвастом, круціў рагамі
І біў па чэраве нагамі.
— А, сябар!.. Добры дзень! —
Сказаў лісліва Авадзень,
Усеўшыся Валу на спіну: —
Як я цябе люблю! Які ты мілы!
Цябе я, сябар, да магілы
Ніколі не пакіну.
Я ўсюды за цябе пайду —
Ў агонь, і ў нетру, і ў ваду.
Цяпер жа вось да стойла давяду.
Але чаму такі ты злосны?
— Адстань, пракляты крывапівец!
І без цябе мне млосна,
Цябе ж я ведаю, паршывец! —
Сказаў сярдзіта Вол ў адказ.
Патом
Хвастом
Па спіне — раз! —
Зваліўся той, як сноп, далоў...

Нямала ёсць павадыроў,
Якія любяць люд працоўны

За тое толькі, безумоўна,
Што любяць яго кроў.
Прамоў тых здрадніцкі-ўрачыстых
Даволі чулі мы і ад фашыстаў.
　　Але яны даждуцца дня —
　　Змахнуць і іх, як Авадня.

*1923*

## ЧАГО Ж ЯНЫ ТАК РАДЫ?

*«Да ўгодкаў абвяшчэння*
*незалежнай Беларускай Рэспублікі»*

Моляцца «беларусы» замежныя
За «Беларусь незалежную» —
Не за нашу, вядома, рабоча-сялянскую,
А за сваю — белапанскую.
Моляцца папы, ксяндзы і рабіны —
Надта ж ужо рады яны.
Але чаго ж яны так рады?
Лепш бы хаўтуры спраўлялі,
Бо ўсе ж «Беларускія рады»
Даўно паўміралі.

*1923*

## ДЗВЕ КУМЫ

— Ну як жа, кумка, маецца? —
Кума ў кумы пытаецца.
— І не пытайся лепш, кума:
Цяпер жа, ведаеш сама,
Што дзень пражыў, то й дзякуй богу;
Не міла, кумка, нек нічога,
Нічога нек і не на ўме,—
Адказвае кума куме.
— Канчына свету, кажуць, блізка:
Вось, кажуць (чула ж, можа, й ты?),—
Радзіла чорта камуністка;
    Ёсць рогі, хвост і капыты...
— Дык як не чуць? Я чула гэта,
Расказвала мне цётка Тэкля;
Казала, што за гэта лета
Чарцей было б тут, як у пекле,
Але таго бог не дапусціць —
Ён кару на людзей напусціць,
Тады народ увесь пагіне,
Мо толькі аднаго пакіне
На свеце бог ці двух, як Ноя...
Каб, здэцца, кумка, нас з табою.
— Хадзем маліцца хіба мы,
Каб бог грахі нам адпусціў,
Каб кары к нам не дапусціў,—
Сказалі разам дзве кумы.
    Пайшлі ў царкву маліцца богу,
Таўкуць ілбамі аб падлогу,
Аж лоб трашчыць — лупцуюць цёткі,
Баяцца згінуць без пары.
А гэтым часам плеткары
Майструюць новыя ўжо плёткі —
Айцу «святому» заработкі.

*1923*

## КАХАННЕ ПЛАНЕТ

*На чуткі аб тым,*
*што кольца Сатурна разламалася*
*і ляціць на Зямлю*

Чароўнаю ночкай вясны
Сатурн у Зямлю закахаўся
І ў тысячы вёрст таўшчыні
Ёй персцень прысляць абяцаўся.
Але вось, як стаў ён здымаць,
Трах персцень на дзве палавіны.
Ну што ж тут каханцы паслаць?
Сатурн палавінку ёй кінуў...
Праўляючы свой карагод,
Зямля вакол Сонца імчыцца
І жджэ, але толькі праз год
Яна прычакае гасцінца.
А Марс — за Зямлёю услед,
Вось-вось ёй наступіць на пяты:
Ці, можа, зайздросціць сусед,
Ці, можа, быць хоча за свата.
Юпітэр — старэйшы ў сям'і —
Пабег на барыш па гарэлку,
Венера — сястрыца Зямлі —
Нарэзала сала талерку.
Адзін падшывалец Уран
На гэта на ўсё са здзіўленнем
Глядзіць, бы ў аптэку баран,—
Не возьме ніяк разумення:
Ці, можа, у нашых планет
Пад старасць ужо не ўсе дома,
Ці, мо, звар'яцеў цэлы свет,
Ці толькі адны астраномы.

*1923*

## МУЗА ПАДВЯЛА

Па шумнай люднай вуліцы
Пясняр ідзе...
То к вуглу ён прытуліцца
І стане дзе,
То крокамі ўжо шпаркімі
Бяжыць-ляціць,
То сочыць ён за хмаркамі —
Ўгару глядзіць.
Нахіл імажыніста меў
Пясняр-мастак
І словамі квяцістымі
Складаў верш так:
«Кажух за кажухам па сіняй чарэні,
Як зайцы,
І залатым зубам дзень
Выскаляецца!!.»
Яшчэ хацеў так добра ён
Зрабіць зварот,
А нехта тут — аглобляю
Ў пяснярскі рот.
І зубы разбягаюцца,
Як дзікія,
І дзень не выскаляецца,
А хныкае.
Пясняр жа з кіем гоніцца
За музаю:
«Дальбог,— крычыць,— разбойніца,
Патузаю!
Не лезь ка мне, шалёная,
Сляпіцаю,
Бо завяду ўсё роўна я
Ў міліцыю!»

*1923*

## ДА НОТЫ КЕРЗАНА

Добра Керзан піша ноты —
Проста люба паглядзець,
Ды няма ў нас ахвоты
Па ягоных нотах пець.

*1923*

## К САБАЧАМУ РАЎНАПРАЎЮ

*У ложах Дзяржаўнага тэатра*
*прыходзіцца бачыць сабак,*
*якія карыстаюцца такімі ж правамі,*
*як і грамадзяне*

Зайшоў у тэатр раз і бачу я —
Нейкая морда сабачая
Сядзіць, выскаляецца ў ложы.
Валачашчая, думаю, можа,
Трэба прагнаць. Падыходжу я бліжай —
Бурчыць мой выжал.
«Ах! каб цябе, кажу, воўк!..»
Але тут жа змоўк,
Бо сядзеў у сабакі ззаду
Чалавек, займаючы вялікую пасаду.
Тады я хутчэй
Уцёк з яго вачэй.
Рабіць, думаю, больш тут няма чаго
(Стала нек страшна мне сябра сабачага).
Але ўсё ж мяне думкі ўзялі:
Што ж гэта робіцца на нашай зямлі!
Дзіўныя бачу справы я:
Мілорд у ложы сядзіць,
А Барбос у шчылінку глядзіць.
А дзе ж раўнапраўе?
Падняць бы пытанне ўжо аб дазволе
Уваходу і іншай жывёле,—
Як сабакам, так коням і козам.
З гэтым згодзіцца кожны, хто мае розум.
А можа, я надта гарачы!
Дык паслухаем, што скажа «сябар сабачы».

*1923*

Верш накіраваны супраць урада буржуазна-памешчыцкай Польшчы, які праводзіў рэакцыйную палітыку ў адносінах да працоўных беларусаў і ўкраінцаў, якія насялялі акупіраваныя панскай Польшчай заходнія вобласці Беларусі і Украіны і часта ўзнімалі паўстанні ў адказ на такую палітыку польскага ўрада.

Тугут — палітычны і дзяржаўны дзеяч буржуазна-памешчыцкай Польшчы, які «праславіўся» тым, што ўзяўся «аздаравіць» «Крэсы», г. зн. уціхамірыць народныя хваляванні ў заходніх абласцях Украіны і Беларусі. З канца 1924 года ён заняў пасаду віцэ-прэзідэнта Польшчы.

Стар. 74. *Рагуліна прамова да свайго гаспадара.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 17 снежня 1924 г. Датуецца 1924 г.

Стар. 75. *Цёткам навука.*— Друкаваўся ў зборніку «Крапіва», Мінск, 1925 г. Датуецца 1924 г.

Стар. 76. *Валакіта.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 23 студзеня 1925 г. пад назвай «Ці не можна прасцей?». Датуецца 1/I 1925 г.

Стар. 78. *Ты не лайся, дзядзя, пры савецкай уладзе.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 7 студзеня 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 80. *Ці то здольны пясняр, ці то модны пляткар?* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 28 студзеня 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 81. *Тварам да вёскі.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 6 сакавіка 1925 г. Датуецца 25/II 1925 г.

«Тварам да вёскі» — выраз, які быў шырока распаўсюджаны ў той перыяд, калі Камуністычная партыя і Савецкі ўрад заклікалі савецкіх людзей звярнуць вялікую ўвагу на вёску, каб дапамагчы ёй пазбавіцца спадчыны мінулага.

Стар. 82. *Язычок.*— Друкаваўся ў зборніку «Выбраная сатыра», Мінск, 1938 г. Датуецца 31/III 1925 г.

Стар. 83. *Дзядзька Хвядос і малакасос.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 17 красавіка 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 85. *«Будзь здарова!» — кажу школе.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Беларускі піянер», 1925, № 5, красавік. Датуецца 1925 г.

Стар. 86. *«Мікроба».*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 27 мая 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 88. *Кормны і надворны.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 16 чэрвеня 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 90. *Сямейная спрэчка.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1927 г. Датуецца 17/VI 1925 г.

Стар. 91. *Старшыня.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 19 чэрвеня 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 94. *Устарэла тэхніка.*— Друкаваўся ў зборніку «Крапіва», Мінск, 1928 г. Датуецца 16/VII 1925 г.

Стар. 96. *Варона-мітынгоўшчыца.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 5 верасня 1925 г. Датуецца 22/VII 1925 г.

Стар. 98. *Сука ў збане.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 7 жніўня 1925 г. Датуецца 23/VII 1925 г.

«Аж гоніць з голаду асцу» — аж цякуць слінкі.

Стар. 100. *Заява.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1927 г. Датуецца 2/VIII 1925 г.

Стар. 102. *Калі ў краме ёсць нястача...*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 11 жніўня 1925 г. Датуецца 9/VIII 1925 г.

Стар. 103. *Балет.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 22 верасня 1925 г. Датуецца 20/IX 1925 г.

Стар. 105. *Дзед і баба.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 29 верасня 1925 г. пад назвай «Баба з калёс, дык каня як чорт панёс». Датуецца 22/IX 1925 г.

Стар. 107. *Мандат.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладняк», 1925 г. № 9. Датуецца 1925 г.

Стар. 108. *Ну як не выпіць?* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 27 кастрычніка 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 109. *Еш, дурань, бо то з макам.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 1 лістапада 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 110. *Я не пясняр!* — Друкаваўся ў зборніку «Асцё», Мінск, 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 111. *У піўной.*— Друкаваўся ў зборніку «Асцё», Мінск, 1925 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 112. *Абраза.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1927 г. Датуецца 1925 г.

Стар. 113. *Мікітка.*— Друкаваўся ў кнізе «Творы», том I, Мінск, 1934 г. Датуецца студзенем 1926 г.

Стар. 115. *Далікатныя Парасяты.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 5 лютага 1926 г. Датуецца 1926 г.

Скарач — кавалак грубога палатна з матузамі на канцы.

Стар. 116. *Шчыры Поп.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Чырвоны сейбіт» № 1, 19 кастрычніка 1926 г. Датуецца 8/III 1926 г.

Стар. 117. *Я шаную.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 21 сакавіка 1926 г., якая ў гэты дзень адзначала свой пяцігадовы юбілей. Датуецца 1926 г.

Стар. 118. *Вараны.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 28 сакавіка 1926 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 120. *Мода.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладняк» № 4, чэрвень 1926 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 122. *Каршун і Цецярук.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладняк» № 4, чэрвень 1926 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 124. *Мачаха.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладняк» № 6, жнівень 1926 г. Датуецца 1926 г.

З а г — скарочанае слова «загадчык».

Стар. 126. *Угоднікі-маўчальнікі.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладняк» № 6, жнівень 1926 г. пад назвай «Хто спіць, той не грэшыць». Датуецца 1926 г.

Стар. 127. *Пра Цыгана і кабылу.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Чырвоны сейбіт» № 2, 2 лістапада 1926 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 128. *Стары і Малады.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Чырвоны сейбіт» № 5, снежань 1926 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 130. *Дыпламаваны Баран.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1927 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 131. *Рак.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1927 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 133. *Член.*— Друкаваўся ў кнізе «Творы», том I, Мінск, 1934 г. Датуецца 1926 г.

Стар. 134. *Сава, Асёл ды Сонца.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 1. Датуецца 1927 г.

Стар. 136. *Ганарысты Парсюк.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 1. Датуецца 1927 г.

Стар. 137. *Чорт.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1927 г.

Стар. 139. *Саманадзейны Конь.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1927 г.

Стар. 141. *Фіга на талерцы.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 4. Датуецца 1927 г.

М а н е р к а — тут у значэнні галава.

А м б а р а с — клопат, захады.

Стар. 144. *Жаба ў каляіне.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 5. Датуецца 1927 г.

Стар. 146. *Зубы.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 5. Датуецца 1927 г.

Стар. 147. *Не губі сябе, дзяўчына...*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 5. Датуецца 1927 г.

С а ў ч ы н — савецкі чыноўнік, бюракрат.

Стар. 149. *Сваяўство.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927 г., № 6. Датуецца 1927 г.

Стар. 150. *Бацька і сын.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Беларускі піянер» № 22, лістапад 1927 г. Датуецца 1927 г.

Стар. 151. *Мядзведзі.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі». Мінск, 1927 г. Датуецца 1927 г.

Стар. 152. *З «барышом».*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 3 лютага 1928 г. пад назвай «Барыш». Датуецца 1928 г.

Стар. 154. *Махальнік Іваноў.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 2. Датуецца 1928 г.

Стар. 156. *Праметэй.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 26 мая 1928 г. Датуецца 1928 г.

Верш з'яўляецца водгукам на пакуты працоўных былой Заходняй Беларусі, якія шмат год стагналі пад прыгнётам буржуазна-памешчыцкага ўрада Польшчы.

Стар. 157. *Дэкрэт.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 3. Датуецца 1928 г.

Стар. 158. *У папа ды быў сабака.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 4. Датуецца 1928 г.

Стар. 160. *Аршын.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1928 г. Датуецца 1928 г.

Стар. 162. *Ліслівае цяля.*— Друкаваўся ў зборніку «Байкі», Мінск, 1928 г. Датуецца 1928 г.

Стар. 164. *Кувада.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 1. Датуецца 1929 г.

Стар. 166. *Рахітык.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 1. Датуецца 1929 г.

Стар. 168. *Апанасава свядомасць.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 1, пад назвай «Свядомасць». Датуецца 1929 г.

Стар. 169. *Пажар.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 7, Датуецца 1929 г.

Бусак — шост з насаджаным на яго металічным астрыём з крукам.

Шалом — шлем, спецыяльная металічная шапка.

Стар. 170. *Курортны верш.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 7. Пад вершам надпіс: «Крым, Сімеіз, 18/IX-1929.»

Стар. 171. *«Наш».*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1929 г., № 9—10. Датуецца 1929 г.

Стар. 173. *Ці я над яслямі сумую.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1930 г., № 1. Датуецца 1929 г.

На гэтым творы адчуваецца выкарыстанне пісьменнікам формы элегічнага верша А. С. Пушкіна «Брожу ли я вдоль улиц шумных».

Рум — месца на беразе ракі, куды падвозяць лесаматэрыял для сплаву.

Стар. 175. *Два каханні.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1930 г., № 1. Датуецца 1929 г.

Стар. 177. *Так жыла між імі згода.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1930 г., № 1. Датуецца 1929 г.

PCI — рабоча-сялянская інспекцыя, якая займалася кантролем, праверкай.

Стар. 178. *Вагон табакі.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1930 г., № 1. Датуецца 1930 г.

Стар. 180. *Плач абываццеля.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1930 г., № 2. Датуецца 1930 г.

Стар. 182. *Здань мінулага не ўстане.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Беларуская вёска» 1 мая 1930 г. з падзагалоўкам «На ўвагу панам вяльможным». Датуецца 1930 г.

Стар. 184. *Хто там чухаецца?* — Друкаваўся ў зборніку «Крапіва», Мінск, 1932 г. Датуецца 1931 г.

Гэты верш пад назвай «Другая бальшавіцкая вясна» быў прачытаны аўтарам 25 лютага 1931 г. перад дэлегатамі X Усебеларускага з'езда Саветаў, аб чым паведамляецца ў часопісе «Маладняк», 1931 г., № 3.

«Другая бальшавіцкая вясна».— Маецца на ўвазе вясна 1931 года — другі год масавай калектыўнай працы сялян.

Стар. 187. *Захара-дырэктар.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1931 г., № 5. Датуецца 1931 г.

Гіндэнбург Паўль (1847—1934) — германскі фельдмаршал, прэзідэнт Германіі ў 1925—1934 гг., манархіст і рэакцыянер, адзін з прадстаўнікоў імперыялістычных колаў Германіі і адзін з натхніцеляў і арганізатараў інтэрвенцыі супраць Савецкага Саюза ў перыяд грамадзянскай вайны 1918—1921 гг. Гіндэнбург дапамог нямецкім фашыстам прыйсці да ўлады, даручыўшы кіраўніку нямецкіх фашыстаў Адольфу Гітлеру сфарміраваць урад, тым самым афіцыяльна перадаўшы ўладу ў рукі фашыстаў.

Фош Фердынанд (1851—1929) — французскі маршал, галоўнакамандуючы арміяй так званай Антанты (палітычны і ваенны саюз імперыялістычных дзяржаў на чале са Злучанымі Штатамі Амерыкі, Англіяй і Францыяй), якая пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі наладзіла тры ваенныя паходы супраць маладой савецкай рэспублікі з мэтай устанаўлення ўлады памешчыкаў і капіталістаў. У апошнія гады свайго жыцця Фош распрацоўваў планы новай інтэрвенцыі супраць СССР.

Прампартыя (прамысловая партыя) — падпольная контррэвалюцыйная шкодніцка-шпіёнская арганізацыя, якая складалася з часткі буржуазнай тэхнічнай інтэлегенцыі; дзейнічала ў СССР з 1926 па 1930 год па заданню замежнай разведкі. У сваім шкодніцтве прампартыя абапіралася на подлых здраднікаў — трацкістаў і правых апартуністаў. Некаторыя з яе лідэраў (напрыклад Рамзін) пазней сумленнай працай апраўдалі сябе перад Радзімай.

Стар. 191. *Свінні на дапамогу.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 28 чэрвеня, 5 і 13 ліпеня 1931 г. Датуецца 1931 г.

Ніт фарштэйн (яўр.) — не разумею.

Стар. 195. *Балабонь да пары, балабонь!* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 15 красавіка 1932 г. Датуецца 1932 г.

«Беларускі звон» — назва беларускай буржуазна-нацыяналістычнай газеты, якая выдавалася ў Вільні.

Луцкевіч Антон (1884—1946). — У пачатку XX стагоддзя — дзеяч беларускага буржуазна-дэмакратычнага руху, адзін з рэдактараў газет «Наша доля» і «Наша ніва». У 20—30-я гады выкладчык беларускай гімназіі ў Вільні. Адзін з лідэраў Цэнтральнага саюза культурных і гаспадарчых арганізацый (Цэнтрасаюз) — палітычнай групоўкі ў былой Заходняй Беларусі, якая імкнулася супрацоўнічаць з дыктатарскім рэжымам Пілсудскага, змагалася супраць КПЗБ, рэвалюцыйнага руху, выступала супраць СССР і БССР. Рэдактар газеты «Беларускі звон».

Луцк — горад, цэнтр Валынскай вобласці Украінскай ССР. Да 1939 года ўваходзіў у склад панскай Польшчы; тут знаходзілася вядомая Луцкая турма, якая «праславілася» зверскім катаваннем арыштаваных рэвалюцыянераў.

Кіртыкліс — былы віленскі ваявода.

Злоты — польская грашовая адзінка.

Біжмаванне (рэліг.) — каталіцкі царкоўны абрад; тут ужыта ў пераносным сэнсе.

Пілсудскі Юзэф (1867—1935) — польскі буржуазны дзеяч. У 1926 г. пасля зробленага ім дзяржаўнага перавароту стаў фактычным дыктатарам Польшчы.

Антонаў агонь — устарэлая назва гангрэны, заражэння крыві.

Стар. 197. *Памагаты.* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 5 чэрвеня 1932 г. Датуецца 1932 г.

Стар. 199. *Кат у няміласці.* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 19 лістапада 1932 г. Датуецца 1932 г.

Твор прысвечаны адстаўцы аднаго з фашысцкіх катаў былой панскай Польшчы, які «праславіўся» бязлітаснай расправай над палітзняволенымі.

Астроўскі Радаслаў (нарадз. 1887) — беларускі буржуазны нацыяналіст, пражываў да 1939 г. у Заходняй Беларусі. У час акупацыі гітлераўскімі войскамі Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны некаторы час стаяў на чале марыянетачнага нацыянал-фашысцкага беларускага ўрада, так званай Беларускай Цэнтральнай рады. Ваенны злачынец. Адзін з верхаводаў антысавецкіх фашысцка-нацыяналістычных арганізацый у ЗША.

Стар. 204. *З фашыстоўскай падваротні.* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 28 лістапада 1932 г. Датуецца 1932 г.

Зэ грамадскі мір — маецца на ўвазе варожая прапаганда беларускіх буржуазных нацыяналістаў наконт «гармоніі» інтарэсаў эксплуататараў і эксплуатуемых.

Стар. 206. *Пакутнікі-сумяшчальнікі.* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 9 снежня 1932 г. Датуецца 1932 г.

Стар. 208. *Хлеб і «вата».* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 31 снежня 1932 г. Датуецца 1932 г.

Верш накіраваны супраць кулацкага сабатажу ў справе хлебанарыхтовак і тых «мяккіх» прадстаўнікоў улады, якія шкадавалі кулака.

Стар. 210. *Едзе крытык малады.*— Упершыню надрукаваны ў кнізе «Заклік» № 1, 1933 г. Датуецца 1932 г.

Верш прысвечаны пастанове ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый і ліквідацыі РАПП (Расійскай Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменнікаў).

Папутнік — тут маюцца на ўвазе так званыя «папутнікі» — распаўсюджанае ў крытыцы 20-х гадоў абазначэнне пісьменнікаў, якія імкнуліся служыць ідэалам сацыялістычнай рэвалюцыі ці спачувалі ёй, але па свайму светапогляду нярэдка стаялі па-за рамкамі пралетарскай ідэалогіі.

Саюзнік — тут маецца на ўвазе савецкі пісьменнік. Апрача таго, аўтар намякае на антымарксісцкі лозунг «Саюзнік ці вораг», з якім падыходзілі часта вульгарна-сацыялагічныя крытыкі да таго ці іншага савецкага пісьменніка. Гэты лозунг скажаў палітыку Камуністычнай партыі аб неабходнасці чулага падыходу да пісьменнікаў.

Стар. 211. *Майстры крывавага джаза.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 22 лютага 1933 г. Датуецца 1933 г.

Лорд Сесіль — англійскі палітычны дзеяч, які ўзначальваў англійскую дэлегацыю ў Жэнеўскай камісіі па раззбраенню (1926—1927 гг.).

Поль Банкур — французскі палітычны дзеяч, тагачасны міністр замежных спраў Францыі.

Савецкі «госць» — маецца на ўвазе кіраўнік савецкай дэлегацыі ў тагачаснай Міжнароднай камісіі па раззбраенню.

Стар. 216. *Шэпча бабка, шэпча...*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 18 чэрвеня 1935 г. Датуецца 1935 г.

Стар. 219. *Жарабяты могуць быць.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 30 чэрвеня 1935 г. Датуецца 1935 г.

Стар. 221. *Кім мы сёння сталі.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 9 ліпеня 1935 г. Датуецца 1935 г.

«Ордэн Леніна нам славай грудзі ўпрыгожыў».— Маецца на ўвазе ўзнагароджанне Беларускай ССР у 1935 годзе ордэнам Леніна.

Стар. 223. *Тата-Заяц.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 31 снежня 1935 г. Датуецца 1935 г.

Стар. 225. *Калгасны дзед.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 28 студзеня 1936 г. Датуецца 1936 г.

Стар. 227. *Давялося свінні на неба глядзець...*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 6 лютага 1938 г. Датуецца 1938 г.

Стар. 229. *Ворану вышай арла не лятаць.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Чырвоная змена» 20 жніўня 1939 г. Датуецца 1939 г.

Стар. 230. *Лісі хвост і воўчы клык.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 17 ліпеня 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 232. *Развітанне сына.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 19 ліпеня 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 233. *Нам памятны дваццаты год.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 25 ліпеня 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 235. *Зброю к бою!* — Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 29 ліпеня 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 236. *Партызанская ноч.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 3 кастрычніка 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 237. *Фрыцавы трафеі.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «За Савецкую Беларусь» 3 лістапада 1941 г. Датуецца 1941 г.

Стар. 239. *Сон Гітлера.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942 г., № 31, люты. Датуецца 1941 г.

Стар. 240. *Біблія людаеда.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942 г., № 31, люты. Датуецца 1942 г.

Вотан — у міфалогіі старажытных германцаў бог ветру і буры, пазней бог вайны.

Стар. 241. *Апошняя стаўка Гітлера.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942 г., № 31, люты. Датуецца 1942 г.

Стар. 242. *Два парады.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісу пад малюнкам у газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942 г., № 31, люты. Датуецца 1942 г.

Стар. 243. *Мы аддзякуем.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь» 23 сакавіка 1942 г. Датуецца 1942 г.

Стар. 244. *Добра насабачыўся.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісу пад малюнкам у газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942 г., № 59, жнівень. Датуецца 1942 г.

Стар. 245. *Гебельс брэша — вецер носіць.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка», 1943 г., № 3, сакавік. Датуецца 1943 г.

Стар. 247. *Разлюлі-люлі маліна.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943 г., № 86—87, май. Датуецца 1943 г.

Стар. 249. *Ой, не хадзі, фрыцу, дый на вечарніцу.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943 г., № 86—87, май. Датуецца 1943 г.

Стар. 250. *Прыгоды Штумфа.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісаў пад малюнкамі ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943 г., № 111, лістапад. Датуецца 1943 г.

Стар. 251. *Эпітафія.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісу пад малюнкам у газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943 г., № 112, снежань. Датуецца 1943 г.

Стар. 252. *Вясновы кірмаш кветак у Берліне.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісу пад малюнкам у газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., № 124—125, сакавік. Датуецца 1944 г.

Стар. 253. *Янка і Карла.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., № 127—128, красавік. Датуецца 1944 г.

Стар. 255. *На Бабруйскай шашы.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 8 жніўня 1944 г. Датуецца 1944 г.

Стар. 256. *Гітлер Марце пагражае, чаму Марта не раджае.*— Упершыню надрукаваны ў якасці подпісаў пад малюнкамі ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., № 135, лістапад. Датуецца 1944 г.

Стар. 258. *Лясная казка.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1947 г., № 3—4, сакавік. Датуецца 1947 г.

Стар. 261. *Лётчык і Блыха.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 29 мая 1949 г. Датуецца 1949 г.

Стар. 264. *Поп і Папугай.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 18 чэрвеня 1949 г. Датуецца 1949 г.

Стар. 267. *Дзіця, Вожык і Змяя.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1950 г., № 23, снежань. Датуецца 1950 г.

Стар. 269. *Балада пра Яўтуха.*— Упершыню надрукаваны у часопісе «Вожык», 1963 г., № 23, снежань. Датуецца 1963 г.

Стар. 271. *Філосаф і рака.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1963 г., № 23, снежань. Датуецца 1963 г.

Стар. 273. *Мурашка і Жук.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1964 г., № 2, студзень. Датуецца 1964 г.

Стар. 275. *Плывец-тэарэтык.*—Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1966 г., № 4, люты. Датуецца 1966 г.

Стар. 277. *Асёл Ісуса Хрыста.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 8 сакавіка 1966 г. Датуецца 1966 г.

Стар. 278. *Дзівак-наватар.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 5 сакавіка 1966 г. Датуецца 1966 г.

Стар. 279. *Шляхі да ісціны.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 8 сакавіка 1966 г. Датуецца 1966 г.

Стар. 281. *Наўздагон за модаю.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1971 г., № 7, красавік. Датуецца 1971 г.

Кафка Франц (1883—1924) — аўстрыйскі пісьменнік, творчасць якога ў гады другой сусветнай вайны і асабліва пасля яе набыла міжнародную вядомасць. Героі яго твораў — звычайна адзінокія людзі, якія пакутліва ўспрымаюць жорсткую бесчалавечнасць і абсурднасць навакольнага буржуазнага свету, дарэмна стараючыся супрацьстаяць яму.

Камю Альбер (1913—1960) — французскі пісьменнік і філосаф, мастацкая творчасць і філасофія якога ўяўляюць сабою супярэчлівы сплаў гуманістычных і індывідуалістычных тэндэнцый.

Стар. 283. ****Спыталіся ў мяне аднойчы юнакі...*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 2. Датуецца 1828 г.

Стар. 283. ****Чаго так гучна б'юць літаўры?..*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 2. Датуецца 1928 г.

Стар. 284. *На вульгарызатара.*— Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Напісаны прыблізна ў першай палавіне 50-х гадоў.

Стар. 284. *Інтэрв'ю Якуба Коласа.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 16 верасня 1935 г. Датуецца 1935 г.

Эпіграма прысвечана знаходжанню Якуба Коласа ў якасці савецкага дэлегата на Сусветным кангрэсе культуры ў 1935 годзе ў Парыжы.

Загібелька — назва вёскі ў Мінскай вобласці, дзе да вайны часта адпачываў Якуб Колас.

Булонскі лес — вялікі парк (848 га) на заходняй ускраіне Парыжа.

Стар. 284. *«Тоўстаму» пісьменніку.*— Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Напісаны прыблізна ў пачатку 60-х гадоў.

Стар. 284. *На ананіма.*— Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Напісаны прыблізна ў 50-х гадах.

Стар. 284. *На празаіка.* — Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя», 1960 г., № 3, пад назвай «Салідны раманіст». Датуецца 1960 г.

Стар. 284. *Крэда халтуршчыка ў паэзіі.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя», 1960 г., № 3, пад назвай «Крэда халтуршчыка». Датуецца 1960 г.

Стар. 284. *«Старой» знаёмай у міні-спадніцы.*— Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Напісаны прыблізна ў першай палавіне 60-х гадоў.

Стар. 285. *Да выхаду ў свет «Анталогіі беларускай паэзіі».*— Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Напісаны ў 1961 г.

«На ферме Петруся».— Маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў Беларусі, старшынёй якога тады быў Пятрусь Броўка.

«Ад Муравейкі да Лася».— Маюцца на ўвазе беларускі паэт Іван Муравейка і беларуская паэтэса Еўдакія Лось.

Стар. 285. *Адказ на «Роздум» Максіма Танка.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя», 1960 г., № 3, пад назвай «Водгук на «Роздум» Максіма Танка». Датуецца 1960 г.

Стар. 286. *Біблія.*— Над гэтым творам К. Крапіва працаваў у 1925 годзе і закончыў яго ў самым пачатку 1926 г. Газета «Савецкая Беларусь» ад 13 студзеня 1926 г. паведамляла, што К. Крапіва чытаў сваю закончаную «Біблію» 11 студзеня 1926 г. на сходзе мінскай філіі «Маладняка».

Некаторыя раздзелы паэмы ўпершыню друкаваліся ў газ. «Беларуская вёска» (красавік — май 1926 г.). Асобным выданнем «Біблія» К. Крапівы выйшла ў свет у 1926 годзе ў Мінску.

Б і б л і я — «свяшчэнная кніга» іудзеяў і хрысціян. Біблія падзяляецца на дзве часткі — больш старажытную (так званы «Ветхі завет») і больш новую (так званы «Новы завет»). Да першай часткі належаць кнігі Бібліі, напісаныя на старажытнай яўрэйскай мове; яны прызнаюцца як іудзеямі, так і хрысціянамі. Да другой — кнігі, напісаныя на грэчаскай мове; яны прызнаюцца толькі хрысціянамі. Іудзейскія і хрысціянскія багасловы сцвярджаюць, што быццам бы Біблія напісана па «ўнушэнню бога»: «Ветхі завет»— Майсеем і другімі прарокамі, «Новы завет», па хрысціянскаму веравучэнню,— вучнямі Ісуса Хрыста. На самай жа справе як Майсей, так і Ісус Хрыстос — міфічныя асобы.

Як і іншыя «свяшчэнныя пісанні», Біблія ўключае наіўныя расказы аб стварэнні свету і чалавека, рэлігійна афарбаваныя паданні аб старажытнейшай гісторыі яўрэяў і іншых народаў, рэлігійныя законы, творы летапісцаў і паэтаў, народныя казкі, прымаўкі, паданні і інш.

Навуковая крытыка Бібліі паказала поўную беспадстаўнасць царкоўнага вучэння аб ёй. Навукай устаноўлена, што Біблія складаецца з твораў, якія ўзніклі ў розны час і ў розных месцах. Напрыклад, асноўная кніга «Ветхага завета»— «Пяцікніжжа» — складзена з розных літаратурных крыніц, якія ў V ст. да нашай эры былі аб'яднаны, апрацаваны і прынялі прыблізна той выгляд, які яны маюць у існуючым цяпер тэксце. Марксісцкая крытыка Бібліі адкідвае казкі аб незвычайным паходжанні і святасці гэтай кнігі і падыходзіць да Бібліі, як да аднаго з помнікаў старажытнай літаратуры, які дае разнастайны матэрыял для характарыстыкі пэўнага перыяду ў жыцці старажытнага грамадства, яго эканомікі, палітычнага ладу і ідэалогіі.

Прадстаўнікі рэлігійнага культу, царкоўнікі выкарыстоўваюць Біблію ў мэтах рэлігійнай прапаганды сярод насельніцтва.

С і н а й с к а я г а р а — гара на паўвостраве Сінай.

Э л о г і м, Я г в е — яўрэйскія імёны бога.

«У с ё в е д а ў, у с ё м о г».— Згодна рэлігійнаму вучэнню, бог з'яўляецца такой істотай, якой падуладны ўсе сілы прыроды, якая надзелена незвычайнымі здольнасцямі ўсё бачыць, чуць, ведаць, усюды быць. У рэлігійных творах існуе нават такое выслоўе накont гэтых якасцей бога: «всевидящий, всеслышащий, вездесущий».

Ш а п і р а — прозвішча вядомага мінскага хірурга.

Д р э в а «з л а й д а б р а п а з н а н н я» і «я б л ы н я (д р э в а) ж ы ц ц я».— Згодна міфалагічнаму біблейскаму вучэнню, бог, стварыўшы першых людзей — Адама і Еву,— пасяліў іх у раі, дзе быў цудоўны сад, у якім раслі два запаветныя дрэвы: дрэва жыцця і дрэва пазнання дабра і зла. Зрываць і есці плады з гэтых дрэў бог забараніў, аднак Адам і Ева не паслухаліся бога і пакаштавалі пладоў з забароненага дрэва, за што былі выгнаны богам з раю.

«Ц я ж к а й к а т а р г а ю в е ч н а й п а к а р а ў с т а р ы А д а м а».—Згодна Бібліі, бог, выгнаўшы Адама з раю, асудзіў яго на вечную цяжкую працу на зямлі.

Х е р у в і м — у рэлігійнай міфалогіі — анёл вышэйшага чыну.

«Б о г у х а б а р у п р ы н е с ц і»...— Маецца на ўвазе біблей-

ская легенда аб тым, як Каін і Авель прыносілі богу ахвяру. Згодна гэтай легендзе, два браты прынеслі на касцёр плады сваёй працы. Каін-хлебароб прынёс плады палёў, а Авель-жывёлавод — двух тлустых авец. Убачыўшы, што касцёр Авеля гарыць значна лепш, Каін, думаючы, што ахвяра брата больш спадабалася богу, з зайздрасці забівае Авеля. За гэты учынак бог асудзіў Каіна з яго патомствам на вечнае бадзянне.

Н о д — назва мясцовасці на ўсход ад Месапатаміі, у якой нібыта пасяліўся Каін пасля забойства свайго малодшага брата Авеля.

П а т о п — біблейская легенда аб так званым сусветным патопе, які быў насланы на людзей богам за іх грахі і ў выніку якога ўсё жывое на зямлі было знішчана, за выключэннем праведніка Ноя, яго сям'і і тых прадстаўнікоў жывёльнага свету, што былі ўзяты Ноем на карабель па загаду бога.

С і м, Х а м, Я ф е т — сыны Ноя.

Л о к а ц ь — тут у значэнні старой меры даўжыні, прыблізна каля 0,5 метра.

«У в а й ш л і ж ы в ё л ы й л ю д з і ў з б у д о в а н ы к а ў ч э г».—Маецца на ўвазе Ноеў каўчэг (карабель), які, паводле біблейскага міфа, быў пабудаваны па загаду бога праведнікам Ноем і яго сынамі. У час сусветнага патопу ў гэтым каўчэгу знаходзілася сям'я Ноя, а таксама розныя віды жывёлы.

А р а р а т — гара (патухшы вулкан) у Турцыі, недалёка ад граніцы Савецкага Саюза. Паводле біблейскага міфа, на гэтай гары нібыта затрымаўся каўчэг Ноя.

«В о с ь і м а е м м ы в я с ё л к у».— Як вучыць Біблія, Ной, каб аддзякаваць богу за сваё выратаванне, прынёс яму ахвяру, за што атрымаў ад бога ўрачыстае абяцанне, што ў далейшым ужо ніколі не будзе патопу. Каб падмацаваць гэтае абяцанне, бог нібыта стварыў вясёлку, якая з'яўляецца на небе пасля дажджу ў знак таго, што гэта не дождж патопу, а дождж благаславення.

«...П о к у л ь с в е т с т а я ц ь м е с в е т а м».— Згодна біблейскаму міфу, Хам за свой злоўчынак у адносінах бацькі (Ноя) быў ім пракляты разам з яго патомствам і асуджаны на вечнае рабства. Ён, як вучыць Біблія, з'явіўся роданачальнікам егіпцян, эфіопаў, лівійцаў і іншых народаў (так званых хамітаў). Міф аб Хаме выкарыстоўваецца эксплуататарскімі класамі, імперыялістамі для распальвання расавай нянавісці, для апраўдання рабства неграў і заняволення каланіяльных народаў.

В а в і л о н с к і м е т а д — маецца на ўвазе Вавілонскае стоўпатварэнне, г. зн. біблейскае сказанне аб тым, як старажытныя людзі пасля патопу задумалі пабудаваць недалёка ад Вавілона (буйнейшы горад старажытнай Месапатаміі, сталіца Вавілонскага царства ў XIX—XI вв. да нашай эры) вялізную вежу «вышынёю да нябёс». Раззлаваны бог змяшаў мовы гэтых будаўнікоў так, што яны перасталі разумець адзін аднаго, спынілі сваю працу і рассеяліся па ўсёй зямлі. Гэтым біблейскім міфам рэлігія тлумачыць разнастайнасць моў народаў свету.

«Г в а л т п а д н я ў с я, я к у с о й м е».— С о й м (польск.) — назва парламента ў Польшчы. У старажытныя часы ў сойме Польскага каралеўства існавала правіла вета (забароны), згодна якому нават адзін дэпутат сойма, калі ён не згаджаўся з тым ці ін-

шым законапраектам альбо пастановай, мог адхіліць іх. Гэта акалічнасць вельмі часта прыводзіла да бурных сцэн у старажытным сойме Польскай дзяржавы.

С а р а — міфічнае біблейскае імя жанчыны, якая нібыта з'яўлялася жонкай Абрама.

Х а н а а н — старажытнаегіпецкая назва сірыйска-палестынскага ўзбярэжжа. У пазнейшы час пад Ханаанскаю зямлёю разумелі ўсю Палестыну.

«С а р у з г р ы б ц і ў ф а р а о н».— Маецца на ўвазе біблейская легенда аб тым, як Сара, знаходзячыся з мужам Абрамам у Егіпце, вельмі спадабалася егіпецкаму фараону (цару) і была сілком узята ў фараонскі палац.

А г а р — рабыня-егіпцянка, якая, паводле Бібліі, служыла ў Абрама і Сары. Ад яе ў Абрама быў сын Ізмаіл, які пазней быў выгнаны разам з маткаю з Абрамавага дому і пасяліўся ў Аравійскай пустыні, дзе, як вучыць Біблія, стаў роданачальнікам арабскіх плямён — ізмаільцян і агаран (па імені Ізмаіла і Агар).

«Д р а м а ў А б р а м а».— Маецца на ўвазе біблейская легенда аб тым, як бог выпрабоўваў сілу веры Абрама; дзеля гэтага бог праз анёла загадаў Абраму прынесці яму ў ахвяру свайго сына Ісака. Калі Абрам намерыўся выканаць гэта патрабаванне, у апошнюю хвіліну бог, пераканаўшыся ў адданасці яму Абрама, выратоўвае яго сына Ісака.

С а д о м і Г а м о р а — назвы гарадоў паўднёвай Палесціны, якія, згодна біблейскаму вучэнню, былі знішчаны богам вогненным дажджом і землетрасеннем за грахі (распусту) жыхароў.

Л о т — паводле біблейскай легенды, пляменнік Абрама.

С і г о р — згодна Бібліі, назва горада ў паўднёвай Палесціне, дзе нібыта пасяліўся Лот пасля знішчэння Садома і Гаморы.

С т р а л я ц ь л е л я к о ў — быць няўважлівым, ратазейнічаць.

А б р а з а н н е — рэлігійны звычай у яўрэяў і некаторых іншых народаў.

«І с х о д»— маецца на ўвазе назва адной з кніг Бібліі, у якой апісваецца выхад (ісход) яўрэяў з Егіпта на чале з прарокам Майсеем і прыход іх у Палесціну.

П а т р ы я р х — роданачальнік; вышэйшы царкоўны тытул.

«Ж о н к у Л о т а м ы ч а с а м і ц і н е з'е л і з с е л я д ц а м і».— Намёк на тое, што жонка Лота, паводле біблейскай легенды, была ператворана богам у саляны слуп.

Стар. 332. *Шкірута.*—Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1928 г., № 1. Датуецца 1928 г.

Т р о п ы — літаратурна-лінгвістычны тэрмін, які абазначае ўжыванне слоў, моўных зваротаў не ў прамым, а ў пераносным, іншасказальным іх значэнні.

«К а р а̀ л і», «с і н ь» — іранічны закід пісьменніка ў адрас тых маладых беларускіх савецкіх паэтаў, якія імкнуліся ў сваіх творах да фальшывай прыгажосці, ужывалі збітыя эпітэты, метафары.

«О й» — маецца на ўвазе выклічнік «ой!», якім злоўжывалі многія маладыя беларускія паэты ў сваіх творах у 20-я гады.

«Д у ш у б в ы п е я ў д а д н а» — паэтычны выраз аднаго з маладых беларускіх паэтаў 20-х гадоў.

«З палякамі меў я справу...» — Маецца на ўвазе вайна паміж буржуазнай Польшчай і Савецкай Расіяй у 1919—1920 гг. У перыяд гэтай вайны, у ліпені — жніўні 1920 г., войскі Чырвонай Арміі прарвалі польскі фронт (так званы жытомірскі прарыў польскага фронта конніцай Будзённага) і апынуліся пад Варшавай.

У хуткім часе пры падтрымцы Англіі і Францыі польскія войскі перайшлі ў контрнаступленне, у выніку якога заходнія вобласці Украіны і Беларусі былі акупіраваны і, згодна Рыжскаму мірнаму дагавору, адышлі да Польшчы.

Булак-Балаховіч — кіраўнік белагвардзейскіх атрадаў у перыяд грамадзянскай вайны; дзейнічаў у Прыбалтыцы (канец 1918 г.), Пскоўскай губерні, затым у 1920 г.— на поўдні Беларусі, атрымоўваючы забеспячэнне ад польскага генеральнага штаба, Булак-Балаховіч называў сябе «бацькам» і «атаманам» «сялянскіх і партызанскіх атрадаў». За час сваёй бандыцкай дзейнасці Булак-Балаховіч «праславіўся» зверскімі яўрэйскімі пагромамі і грабежніцтвам сялян. К канцу 1920 г. атрады Булак-Балаховіча, разгромленыя Чырвонай Арміяй, адступілі ў Польшчу.

Стар. 345. *Хвядос — Чырвоны нос.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша» 1930 г., № 6, 7, 8, 9—10. Датуецца 1930г. У 1931 годзе ў Мінску твор выйшаў у свет асобным выданнем.

Паэма «Хвядос — Чырвоны нос» — адзін з буйнейшых сатырычных твораў К. Крапівы. Нягледзячы на казачна-фантастычны сюжэт гэтай паэмы, яна ўсім сваім сатырычным зместам накіравана ў рэчаіснасць 20-х — пачатку 30-х гадоў. З аднаго боку, аўтар, карыстаючыся прыёмам пераўвелічэння, гіпербалізацыі, высмеяў адмоўныя з'явы грамадскага жыцця і быту (п'янства, маральнае разлажэнне некаторай часткі літаратурных работнікаў, беспрынцыповую, аглабельную крытыку, літаратурную халтуру), закляйміў варожую дзейнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў і іх абаронцаў, асудзіў бюракратызм і падхалімства, нядбайныя адносіны да працы і абавязкаў перад савецкім народам; з другога боку, сцвердзіў усё тое новае ў жыцці і быце, што нёс з сабой сацыялістычны лад. Пры гэтым пісьменнік на ўсе адмоўныя і станоўчыя з'явы рэчаіснасці глядзіць вачыма будучых пакаленняў, якім суджана жыць у камуністычным грамадстве.

Сваім выкрывальным пафасам і камуністычнай партыйнасцю, сцверджаннем новых форм жыцця, маралі паэма «Хвядос — Чырвоны нос» пераклікаецца з выдатным творам У. Маякоўскага «Клоп».

БАН — Беларуская Акадэмія навук.

«Гімны кволыя Марыі ціха нюнялі часамі».— Намёк пісьменніка на некаторых паэтаў дваццатых гадоў, творчасць якіх вызначалася ўпадніцтвам, суб'ектывізмам і не адпавядала задачам эпохі.

«Пераймалі дым і лёскат».— Намёк на пісьменнікаў, якія глыбокае адлюстраванне спраў савецкіх людзей па будаўніцтву сацыялістычнага грамадства падмянялі павярхоўным апісаннем індустрыяльнага пейзажу, «пераймалі дым і лёскат» фабрык і заводаў.

«Яшчэ марылі паддэмы аб «сваёй», аб «незалежнай».— Маецца на ўвазе мары беларускіх буржуазных

нацыяналістаў аб рэстаўрацыі капіталізму ў Беларусі, адрыве яе ад Савецкага Саюза і ўтварэнні так званай «незалежнай» Беларусі.

«Бусел» — іранічная назва вялікай бутлі гарэлкі.

«Ну зусім «гарэць» не ўмеюць».— Іранічны закід па адрасу паэтаў, якія замест паказу жывога чалавека і яго спраў «пераймалі дым і лёскат» (гл. заўвагу вышэй).

«Успамінаць былую «смычку» ды былыя «ножніцы».— Маецца на ўвазе разыходжанне паміж цэнамі на сельскагаспадарчыя і фабрычна-заводскія тавары («ножніцы») у першыя гады савецкай улады і палітыка Камуністычнай партыі ў справе ўмацавання саюза паміж горадам і вёскай («смычка»).

«Але выдумаў жа «арку» будаваць над акіянам».— Маецца на ўвазе назва паэмы Пятра Глебкі «Арка над акіянам».

«Ды праз «трэскі», ды праз «хвалі».— Маецца на ўвазе кніга Цішкі Гартнага «Трэскі на хвалях».

«У выдавецтве цісну ў сокі».— Маецца на ўвазе раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны».

«Кузьму белага чарнілі».— Маецца на ўвазе вядомы беларускі пісьменнік Кузьма Чорны (Мікалай Раманоўскі), які, наперакор псеўданіму, быў бландзінам.

Салаўкі — Салавецкія астравы ў Белым моры.

«Дык назаўтра ўся сяліба разбіраць пайшла скарэй абагуленых курэй».— Маюцца на ўвазе перагібы ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, калі некаторыя перагібшчыкі прымушалі часам сялян абагульваць нават свойскую птушку.

«Дзесьці тут была мяжа».— Маецца на ўвазе дзяржаўная граніца СССР.

Прышчэпаў — былы Народны Камісар земляробства Беларускай ССР, праводзіў няправільную аграрную палітыку (хутарызацыю), насаджаў так званыя «культурныя» (кулацкія) гаспадаркі. «Дзейнасць» Прышчэпава ў хуткім часе была выкрыта, яна атрымала назву «прышчэпаўшчына».

Князь-возера — былая назва возера на Палессі, зараз называецца — Чырвонае.

Ляскавічы — назва вёскі Петрыкаўскага раёна, Гомельскай вобласці, дзе нарадзіўся Сяргей Дарожны (гл. заўвагу ніжэй).

Сярога — маецца на ўвазе беларускі паэт Сяргей Дарожны (сапраўднае прозвішча С. М. Серада, 1909—1938).

Швіц — бык швіцкай пароды (назва пароды буйной рагатай жывёлы, упершыню выведзенай у Швейцарыі).

Рачыца — тут маецца на ўвазе гор. Рэчыца Гомельскай вобласці.

Амсціслаў (правільна — Мсціслаў) — горад, раённы цэнтр (Магілёўская вобласць).

Вехра (Віхра) — назва ракі, на якой стаіць горад Мсціслаў.

«Тут вось некалі ў цішы высиявалі «дзве душы».— Маецца на ўвазе аповесць беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага (1893—1939) «Дзве душы».

«Тут жа нехта і вершы плёў. Пра яго ашчэ трапалі, што ён жыў з «чужых палёў».— Маецца на ўвазе

зборнік беларускіх перакладаў з твораў замежнай паэзіі «Кветкі з чужых палёў» (1928). Перакладчыкам з'яўляўся беларускі пісьменнік Ю. Гаўрук.

Люцыпарская сіла — ад слова люцыпар (сатана, д'ябал), які ў хрысціянскай міфалогіі выступае як уладар пекла.

«Самабытнай», адным словам, з каўтуном абавязковым».— Маюцца на ўвазе этнаграфічныя даследаванні беларускіх «вучоных» з лагера буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся вышукваць рэдкія тыпы адсталага, цёмнага, забабоннага жыхара беларускага Палесся і выдавалі яго за «нацыянальна-самабытны» тып беларуса.

«Абняліся Лёсік з Воўкам...» — Маюцца на ўвазе Язэп Лёсік (1884—1940) — беларускі мовазнаўца і пісьменнік, які ў сваіх творах і навуковых даследаваннях дапускаў памылкі нацыяналістычнага характару, і Іосіф Воўк-Левановіч (1891—1943) — беларускі мовазнавец, даследчык мовы выданняў Ф. Скарыны.

«Там, наперадзе, ля бочкі, увіхаецца Глыбоцкі».— Маецца на ўвазе беларускі паэт Алесь Дудар (сапраўднае прозвішча А. А. Дайлідовіч, 1904—1946), які пад сваімі крытычнымі працамі падпісваўся: «Тодар Глыбоцкі».

«А Цвяткоў і Байкоў падтрымоўваюць з бакоў...»— Маюцца на ўвазе беларускія мовазнаўцы і літаратуразнаўцы, якія ў сваіх працах 20-х гадоў часамі дапускалі памылкі.

«Спажыўца заўзята, палка заклікае зверху Скалка».— Маецца на ўвазе малавядомы беларускі літаратурны крытык і пісьменнік Антон Скалка, аўтар зборніка вершаў і п'ес «Заранкі» (1927).

«Есть», «добро», «зело» і «веди»— старыя назвы літар славянскага алфавіта: «е», «д», «з», «в».

## ЗМЕСТ

*На белорусском языке*

**КОНДРАТ КРАПИВА**
(Кондрат Кондратович Атрахович)

**СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ПЯТИ ТОМАХ**

*том первый*

Стихи, басни, эпиграммы, поэмы

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары М. Р. Казлоў, Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Я. Ф. Харко.

АТ 04058. Здадзена ў набор 23/Х 1973 г. Падп. да друку 28/VI 1974 г. Тыраж 16 000 экз. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум друк. арк. 23,18. Ул.-выд. арк. 18,81. Зак. 548.
Цана 2 руб.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Крапіва К.**

К 77 Збор твораў у пяці тамах. Том I. Вершы, байкі, эпіграмы, паэмы. Мн., «Маст. літ.», 1974.
442 с. з іл.

У першы том уключаны толькі паэтычныя творы: вершы, байкі, фельетоны, эпіграмы і паэмы, напісаныя пісьменнікам за ўсе гады творчай працы.
Друкуецца нямала вершаў, якія не ўключаліся ў папярэднія Зборы твораў.

$К\frac{70403\text{-}122}{М\ 302(05)\text{-}74}$ 97-74

Бел 2